Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

30 МАЯ 1929 г.

№ 5 (64)

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929

# З Ь М Е С Т

## 1. Пастанова Камітэту па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР

### пра нормы аплаты агэнтаў па збору падпіскі і абвестак для пэрыадычных выданьняў БССР.

Для ўрэгуляваньня аплаты агэнтуры па прыёму падпіскі на пэрыадычныя выданьні БССР (газэты, часопісі), а таксама па збору абвестак і рэклямнага матар'ялу для гэтых выданьняў, Камітэт па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Перавесьці ўсю агэнтуру па збору падпіскі і абвестак для ўсіх пэрыадычных выданьняў—газэт і часпісаў—выключна на працантавую аплату незалежна ад таго, ці лічацца яны ў ліку штатных супрацоўнікаў выдавецтваў ці ня лічацца.

2. Устанавіць наступныя гранічныя нормы працантавай узнагароды агэнтуры па збору падпіскі на пэрыадычныя выданьні:

а) за прыём падпіскі ў горадзе, дзе выходзіць газэта, ня звыш 10% ад фактычна сабраных сум па падпісцы;

б) за прыём падпіскі на пэрыфэрыі, як у горадзе, так і ў вёсцы, ня звыш 15% ад фактычна сабраных сум па падпісцы.

*Увага.* % узнагароды агэнтуры за распаўсюджваньне цэнтральных небеларускіх выданьняў, захоўваецца ў разьмеры, устаноўленым у цэнтралізаваным парадку выдавецтвамі гэтых выданьняў, але ня звыш гранічных норм, устаноўленых для БССР.

3. Установы і арганізацыі, якія бяруць на сябе распаўсюджваньне пэрыадычных выданьняў (газэт і часопісаў) на дагаворных началах з выдавецтвамі пры наяўнасьці ў іх субагэнтуры атрымліваюць устаноўлены ў п. 2 % узнагароды за прыём падпіскі:

а) з выданьняў, падпісная плата якіх менш за 50 кап. у месяц—ня звыш 10% ад фактычна выручаных і зданых у касу выдавецтва сум за прынятую падпіску:

б) з выданьняў, падпісная плата якіх перавышае 50 к. у месяц—ня звыш 5% ад фактычна выручаных і зданых у касу выдавецтва сум за прынятую падпіску.

*Увага.* Установы і арганізацыі, якія ня маюць субагэнтуры і прымаюць падпіску на месцы ва ўстанове, атрымліваюць узнагароду ў разьмеры, вызначаным у п. 2 гэтае пастановы.

4. Пры раздробным продажу газэт гранічны % скідкі, якая даецца выдавецтвамі газэтчыкам, не павінен перавышаць 30% ад раздробнай цаны газэты.

5. Аплату агэнтуры па збору абвестак і рэклям для ўсіх пэрыадычных выданьняў (газэт, часопісяў, выданьняў справачнага характару) праводзіць з наступных гранічных норм працантавай аплаты:

а) за абвесткі і рэклямы для зьмяшчэньня ў газэты, якія прымаюцца ў тым-жа горадзе, дзе выдаецца газэта, ня звыш 10% з фактычнай сумы заказа;

б) за абвесткі і рэклямы, якія прымаюцца па-за горадам для зьмяшчэньня ў цэнтральных газэтах ці за абвесткі, якія прымаюцца ў цэнтры,

для зьмяшчэньня ў акруговых газэтах — ня звыш 15% з фактычнай сумы заказа;

в) за абвесткі і рэклямы ў часопісах, якія прымаюцца ў тым-жа горадзе, дзе выдаецца часопіс—ня звыш 15% з фактычнай сумы заказа;

г) за абвесткі і рэклямы ў часопісах, якія прымаюцца ня ў тым горадзе, дзе выдаецца часопіс, а ў іншых гарадох ці паселішчах — ня звыш 20% з фактычнай сумы заказа.

*Увага* 1. За абвесткі і рэклямы, якія павінны друкавацца ўстановамі ці арганізацыямі ў абавязковым парадку, паводле існуючага заканадаўства, процантавая ўзнагарода агэнтуры не даецца.

*Увага* 2. Процантавая ўзнагарода выплачваецца агэнтуры толькі з тых сум, якія фактычна паступілі ў касу выдавецтва за надрукаваньне абвестак і рэклям.

6. За абвесткі і рэклямы, якія прымаюцца непасрэдна падпіснымі ці рэклямнымі канторамі, устанавіць наступныя гранічныя разьмеры процантавай узнагароды на карысьць кантор:

а) за мясцовыя абвесткі і рэклямы—ня звыш 2%;

б) за абвесткі для выданьняў, што друкуюцца ў іншых мясцох—ня звыш 5%.

7. Абавязаць выдавецтвы не дапушчаць крэдытаваньня прыватных асоб, якія здаюць у друк рэклямы або абвесткі

8. Абавязаць выдавецтвы не друкаваць абвесткі і рэклямы, якія відавочна разьлічаны на ашуканьне чытачоў.

Старшыня Камітэту па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР *А. Меляшкевіч.*

17 красавіка 1929 г.

---

## 2. Пастанова Камітэту па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР

### пра ўрэгуляваньне кнігавыдавецкай дзейнасьці і кніжнага гандлю БССР.

На падставе п. 2-б палажэньня аб Камітэце па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР (З. З. БССР 1928 г. № 18, арт. 175), Камітэт па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе выдавецтвы на вокладцы кожнага экземпляра свае прадукцыі, што выпушчаецца для продажу, вызначаць яго намінал (цьвёрдую прадажную цану).

2. Асноўнай адзінкай калькуляцыі для вылічэньня намінала на кніжную прадукцыю лічыць фактычныя вытворчыя выдаткі, якія павінны складацца з трох элемэнтаў:

а) аўтарскі ганарар, б) друкарскія выдаткі, в) папера.

3. Намінал кніг і брашур на беларускай і іншых мовах, якія выдаюцца выдавецтвамі БССР, устанаўляецца праз памнажэньне ў кожным паасобным выпадку сумы фактычных вытворчых выдаткаў (п. 2) на каэфіцыэнты.

Сярэдні гадавы каэфіцыэнт па кожнаму выдавецтву БССР не павінен перавышаць 2,4.

Каэфіцыэнты павінны ўжывацца выдавецтвамі з такім разрахункам, каб па кожнаму выдавецтву было дасягнута сярэдняе зьніжэньне кошту аднаго аркуша-адбітка супроць 1927-28 г. ня менш, як на 10%.

*Увага 1.* У лік 10%-нага зьніжэньня намінала аркуша-адбітка не павінна ўлічвацца зьніжэньне яго ў некаторых выдавецтвах за лік спэцыяльных асыгнаваньняў.

*Увага 2.* Ужываньне каэфіцыэнту у адносінах да масавай і дзіцячай літаратуры робіцца паводле пастановы СНК БССР за 18/IV—29 г. (дадатак).

4. Устанавіць для дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх выдавецтваў наступныя гранічныя сярэднія гадавыя нормы выдаткаў і скідак:

а) рэдакцыйна-выдавецкія выдаткі—ня звыш 9% да фактычных вытворчых выдаткаў;

б) кіраўнічыя выдаткі ў частцы, якая прыпадае на ўласную выдавецкую дзейнасьць, ня звыш 5%;

в) гандлёвыя выдаткі—ня звыш 12% да абаротаў НЭТТО (выручка);

г) рэзэрв на неліквідны астатак—ня звыш 10% да намінала выпушчанай прадукцыі;

д) прыбытак—ня звыш 6% сумы грашовых укладаньняў;

е) фінансавыя выдаткі—ня звыш 10% сумы грашовых укладаньняў;

ж) гандлёвая сярэдня-гадавая скідка па кожнаму выдавецтву на падручнікі—ня звыш 20% абароту па наміналу, на ўсе іншыя кнігі—ня звыш 25% абаротаў па наміналу.

5. Для ўпарадкаваньня справаздачнасьці выдавецтваў і ўдасканаленьня паасобных артыкулаў выдаткаў, пералічаных у п. 4 гэтай пастановы, абавязаць усе выдавецтвы:

а) пры калькуляцыі кніжак няўхільна прытрымлівацца адзінай намэнклятуры элемэнтаў кнігавыдавецкай калькуляцыі (часопісь „Хозяйство печати“ за 1928 г. № 7—8);

б) пры складаньні гадовай справаздачы за 1928-29 г. і за наступныя гады карыстацца выключна ўстаноўленымі формамі гадовай справаздачы і балянсу для кнігавыдавецтваў і газэтных гаспадарак (выдавецтва „Вопросы Труда“ за 1929 г.).

*Увага.* Пункт „б“ § 5 гэтай пастановы пашыраецца на ўсе кніжныя і газэтныя выдавецтвы.

6. Устанавіць для ўсіх дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных выдавецтваў, а таксама для ўсіх кнігагандлёвых прадпрыемстваў пры продажы літаратуры на беларускай мове і іншых нацыянальных мовах выданьня 1928 г. і пазьнейшых гадоў наступныя скідкі з намінала:

а) для гандлёвых прадпрыемстваў акруговага значэньня, а таксама для раённых кнігагандлёвых прадпрыемстваў, да якіх прымацаваны нізавыя спажывецкія т-вы па задаваленьню кнігамі і ўсе ЦРК пры закупцы імі кніг з цэнтральных базісных складаў, устанавіць скідкі на падручнікі—ня звыш 25%, і на іншыя выданьні—ня звыш 32%, з тым, каб агульныя сярэдня-гадавыя выдаткі па скідках па кожнаму выдавецтву не перавышалі па падручніках—20%, а па іншых відах літаратуры—25%.

б) для раённых і вясковых кнігагандлёвых прадпрыемстваў, якія гандлююць кнігамі ў раздроб, устанавіць цьвёрдыя скідкі з намінала: на падручнікі—18%, на іншыя віды літаратуры—23%. Работнікі вясковых кнігагандлёвых пунктаў, якія не атрымліваюць цьвёрдай пэнсіі, павінны прэміявацца ня менш 15% ад сум, што выручаюцца імі за

праданую літаратуру. Работнікі, якія працуюць у спэцыяльных кніжных крамах на цьвёрдай пэнсіі, павінны прэміявацца ў разьмеры ня ніжэй 3% ад выручаных імі сум за праданую літаратуру.

*Увага 1.* Падручнікамі лічацца кнігі і кніжныя дапаможнікі, дапушчаныя Наркамасьветы для навучальных устаноў.

*Увага 2.* На літаратуру, што вывозіцца за межы СССР, паказаныя у п. 6 гэтае пастановы нормы скідак не распаўсюджваюцца.

*Увага 3.* Выдаткі на ўтрыманьне самой кнігандлёвай сеткі выдавецтваў павінны ўкладацца ў нормы скідак, прадугледжаныя п. 6 гэтае пастановы.

7. Пры гуртовай закупцы літаратуры ад выдавецтваў цэнтральнымі арганізацыямі (Белкапсаюз, Белсельсаюз і г. д.) для сваёй пэрыфэрыі вызначаныя ў п. 6 нормы скідак падвышаюцца на 5%.

8. Пры продажы літаратуры навуковым, вучэбным і культурнаасьветным установам і арганізацыям, мясцкомам, студэнцкім і вайсковым аб'яднаньням, якія купляюць кнігі не для продажу, даецца скідка ня звыш 10% з наміналу.

9. Пры продажы літаратуры кнігадлёвым прадпрыемствам і арганізацыям, а таксама арганізацыям, якія паказаны у п. 8 гэтае пастановы, фрахт па фактычнаму кошту правозу, ад месца знаходжаньня прадаўца да пункта прызначэньня, адносіцца за кошт купца.

Пры водпуску выдавецтвамі літаратуры ўласнай кнігагандлёвай сетцы фрахт аплачваецца апошняй і пакрываецца кнігагандлёвай скідкай (п. 6).

10. Пры раздробным продажу літаратуры непасрэдна індывідуальным спажыўцом скідка з наміналу не даецца.

11. Пры продажы літаратуры ў крэдыт, тэрміны крэдытаваньня дапушчаюцца ня больш, як на 6 месяцаў.

Выдаткі па дысконту адносяцца за кошт пакупца.

12. Устаноўленыя гэтаю пастановаю скідкі з намінала ўжываюцца незалежна ад умоў разьліку (гатоўка, крэдыт пад вэксаль і г. д.).

13. Устаноўленыя гэтаю пастановаю скідкі з наміналу, парадак аплаты фрахта і тэрмін крэдытаваньня не распаўсюджваюцца на падпісныя выданьні, якія ня пушчаюцца ў продаж, а таксама на каляндары, графіку і вайсковыя статуты.

*Увага.* Падпісныя выданьні ў частцы, якая паступае ў раздробны продаж, падпарадкоўваецца агульным умовам скідак крэдыту і г. д. Выданьні, на вокладцы якіх ня вызначаны намінал, могуць быць пушчаны у продаж толькі пасьля налажэньня штампу, вызначаючага цану.

14. Пры продажы беларускай і іншай нацыянальнай літаратуры кнігагандлёвым прадпрыемствам, якія знаходзяцца на тэрыторыі Сібіры, Сярэдняй Азіі, Закаўказьзя і г. д., выдавецтвы кіруюцца пастановаю Н.К. Гандлю СССР за 7/V 1928 г., п. 12.

15. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з дня яе апублікаваньня і распаўсюджваецца на ўсе заключаныя раней умовы ў дачыненьні не зданай да ўступленьня ў сілу гэтае пастановы літаратуры.

16. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да судовай адказнасьці, паводле заканадаўства СССР і БССР.

Старшыня Камітэту па справах друку і паліграфічнай прамысловасьці пры СНК БССР *А. Меляшкевіч.*

14 сакавіка 1929 г.

*Дадатак да п. 3.*

ВЫПІС

з пратаколу № 88, п. 1792 пасяджэньня Савету Народных Камісараў Беларускае ССР за 18 красавіка 1929 г.

| Разглядалі | Пастанавілі |
|---|---|
| **1792.** Пра пытаньне масавай і дзіцячай літаратуры.<br>Дакл. т. Меляшкевіч; зацьв. Старшынёй СНК тав. Галадзедам М. М.<br>15-IV—1929 г.;<br>Прат. ПК № 38, п. 742;<br>**Інд.655.41/1297.** | **1792.** У адносінах да масавай і дзіцячай літаратуры каэфіцыэнт гандлёвых выдаткаў павінен ужывацца так, каб намінал іх не перавышаў сярэдняй каштоўнасьці такога-ж памеру кніжак, якія выдаюцца на расійскай мове выдавецтвамі іншых рэспублік (РСФСР і г. д.), аднак, ня ніжэй вытворчага кошту кніжак.<br>Узгоднена з ВСНГ БССР — адносьнік за 12-IV—1929 г. № 214/1. |

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра зьмену пастановы НКП і ВСНГ БССР за 19 верасьня 1925 году „Пра абавязковую пэрыядычную праверку і кляйменьне маномэтраў“.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў пастанове НКП і ВСНГ БССР за 19 верасьня 1925 г. „Пра абавязковую пэрыядычную праверку і кляйменьне маномэтраў“ (Бюл. СНК 1926 г. № 1).

1. Арт. 4 скасаваць.
2. Арт. 5 запісаць так: „Прадпрыемствы маюць права заключаць умовы з Беларускай Палатай Мерак і Вагаў аб ісьпыце маномэтраў на месцы“.
3. Арт. 6 запісаць так: „Нагляд за правільнасьцю праверанparam і ўстаноўленых маномэтраў ускладаецца на тэхнічную інспэкцыю НК Працы БССР і правершчыкаў Беларускай Палаты Мерак і Вагаў.
4. Арт. 7 запісаць так: „За псаваньне плёмбаў і карыстаньне маномэтрамі бяз плёмбаў вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 154а Крымінальнага Кодэксу БССР.
5. У арт. арт. 1 і 3 замест „Беларуская Паверачная Палата“ запісаць „Беларуская Палата Мерак і Вагаў“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*
Сакратар НКПрацы БССР *Ф. Нікanoраў.*

20 красавіка 1929 г.
№ 28.

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра аплату дзён адпачынку, сьвяточных дзён і льготных гадзін напярэдадні штотыднёвых дзён адпачынку і сьвяточных дзён.

У дадатак да пастановы НК Працы СССР за 4 верасьня 1926 г. № 194/523 „Аб аплаце дзён адпачынку, сьвяточных дзён і льготных гадзін напярэдадні штотыднёвых дзён адпачынку і сьвяточных дзён“ (Изв. НКТ 1926 г. № 34) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Работа ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку ў дзяржаўных, грамадзкіх і капэрацыйных установах і прадпрыемствах

дазваляецца ў выключных выпадках, паводле арт. 104 Кодэксу Законаў аб Працы, і толькі на падставе загаду наймальніка данага ў пісьмовай форме, пры чым рабочыя і служачыя маюць права атрымоўваць плату за гэту работу незалежна ад таго, ці быў наймальнікам атрыман адпаведны дазвол ад інспэкцыі працы, ці не.

II. Забараняецца назначаць рабочым і служачым з нармаваным рабочым днём замест аплаты за работу ў дні адпачынку і сьвяточныя дні надбаўку да асноўнага акладу з заработнай платы.

Пытаньне аб аплаце за паказаныя ў гэтым артыкуле дні работнікаў з ненармаваным рабочым днём вызначаецца паводле пастановы НК Працы СССР за 13 лютага 1928 г. № 106 (Изв. НКТ 1928 г., № 9/10).

III. Калі замест штотыднёвых дзён адпачынку ці сьвяточных дзён даецца іншы выхадны дзень з захаваньнем 42-гадзіннага бесьперапыннага адпачынку, дык праца ў сьвяточныя дні альбо штотыднёвыя дні адпачынку дадаткова не аплачваецца.

IV. Калі асобны дзень адпачынку пераносіцца на іншы дзень па пастанове агульнага сходу, але рабочыя і служачыя адмаўляюцца скарыстаць устаноўлены гэтым сходам выхадны дзень, яны ніякай даплаты не атрымоўваюць.

V. Калі замест дзён адпачынку і сьвяточных дзён не даюцца іншыя выхадныя дні, дык за працу ў гэтыя дні даплачваецца ў падвойным разьмеры, гэта значыць, працаўнікі, якія аплачваюцца па-гадзінна, атрымоўваюць за працу даплату ў падвойным разьмеры па сваёй тарыфнай стаўцы (разрахунак разьмеру аплаты залежыць ад спосабаў устанаўленьня падзённай стаўкі: калі, напрыклад, для падзённай стаўкі бярэцца $1/24$, дык пры стаўцы на месяц 72 руб. за работу ў сьвяточны дзень даплачваецца $72:24=3\times2=6$ р., а працуючыя зьдзельна—атрымоўваюць даплату да свайго зьдзельнага заработку ў разьмеры ня ніжэй пагадзіннай тарыфнай стаўкі за кожную гадзіну працы ў сьвяточныя дні, альбо ў дні штотыднёвага адпачынку.

VI. Права на іск аб аплаце за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку спыняецца ў тэрміны, устаноўленыя „Правіламі пра міравы, пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак“ (З. З. СССР, 1928 г. № 56, арт. 495) для падачы заяў аб разглядзе спрэчак па пытаньнях аплаты звыштэрміновай работы.

VII. З выданьнем гэтай пастановы касуюцца: 1) Абежнік НКП БССР за 14 сьнежня 1926 г. № 18 „Аб аплаце дзён адпачынку, сьвяточных дзён і льготных гадзін“ (Бюл. СНК 1927 № 1); 2) абежнік НКП БССР за 31 сакавіка 1927 г. № 52 „Аб растлумачэньні пастановы НКП СССР за 4 верасьня 1926 г. № 194/523 „Аб аплаце дзён адпачынку, сьвяточных дзён і льготных гадзін напярэдадні штотыднёвых дзён адпачынку і сьвяточных дзён“ (Бюл. СНК 1927 г. № 8); 3 (пастанова НКП і НКЮ БССР за 16 чэрвеня 1928 г. № 41 „Пра аплату за работу ў сьвяточныя дні, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку“ (Бюл. СНК 1928 г. № 7); 4) пастанова НКП і НКЮ БССР за 15 сьнежня 1928 г. № 79 „Пра зьмену арт. 3 пастановы сваё за 16 чэрвеня 1928 году № 41 „Пра аплату за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку“ (Бюл. СНК 1928 г. № 16).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*
Ст. Праўны Інспэктар *Х. Гольдзінбэрг.*

Узгоднена: з ЦСПСБ—Нам. Заг. Тар.-Экан. Аддзелу *З. Каган.*
з НКЮстыцыі БССР — Пракурор па працоўных справах *Б. Глезераў.*

22 красавіка 1929 г.
№ 29.

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

### пра парадак зьмяшчэньня інвалідаў працы ў каперацыйных арцелях інвалідаў.

У дадатак да інструкцыі Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 1 лістапада 1928 г. № 755 (Изв. НКТ 1929 г. № 6), Народныя Камісарыяты Працы і Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР пастанаўляюць:

1. Права на зьмяшчэньне ў каперацыйных арцелях інвалідаў і на ўнясеньне паёў за іх органамі сацыяльнага страхаваньня маюць:

а) інваліды працы, што атрымліваюць пэнсіі ад органаў сацыяльнага страхаваньня, б) інваліды працы IV, V, VI груп інваліднасьці, зарэгістраваныя на біржах працы і якія маюць права на дапамогу па беспрацоўю ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

2. Зьмяшчэньне ў каперацыйныя арцелі інвалідаў працы, што атрымліваюць пэнсію ад органаў сацыяльнага страхаваньня, альбо якія маюць права на дапамогу па беспрацоўю, зьяўляецца дабравольным.

3. Паказаныя у арт. 1 гэтае пастановы асобы, якія жадаюць паступіць у члены каперацыйнай арцелі інвалідаў, падаюць аб гэтым заяву ў адпаведную арцель разам з дакумантам, які сьведчыць аб тым, што яны атрымліваюць пэнсію альбо маюць права на дапамогу па беспрацоўю ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

4. Паявыя уносы за паказаных у арт. 1 асоб пасьля паданьня апошнімі пастаноў адпаведных органаў арцелі аб іх прыняцьці ў склад арцелі ўносяцца страхавой касай беспасрэдна ў арцель.

5. Разьмер сум, што ўносяцца страхавой касай у арцель за кожную паказаную у арт. 1 асобу і парадак выплаты ім дапамог вызначаецца інструкцыяй СССС за 1 лістапада 1928 г. № 755.

6. У тых выпадках, калі разьмер паю перавышае разьмер 6-месячнай пэнсіі альбо 6 месячнай дапамогі па беспрацоўю, часьць паю, што перавышае разьмер 6 месячнай пэнсіі альбо дапамогі па беспрацоўю, аплачваецца беспасрэдна асобай, якая паступае ў члены арцелі, пры чым арцель павінна растэрмінаваць уплату гэтае часьці паю.

7. Калі асоба, за якую паявыя ўзносы заплачаны органамі сацыяльнага страхаваньня, добравольна выходзіць альбо выключаецца з складу арцелі, пай зварочваецца адпаведнай страхавой касе ў парадку, прадугледжаным статутам арцелі.

8. Пры пераходзе паказаных у арт. 1 асоб з аднэй арцелі ў другую ўзносы пераводзяцца ў апошнюю.

9. Органы сацыяльнага страхаваньня ўдзельнічаюць з правам дарадчага голасу у пасяджэньнях органаў сац. забясьпечаньня пры вырашэньні пытаньняў, зьвязаных з зьмяшчэньнем інвалідаў у арцелі, а таксама ва усіх пасяджэньнях органаў інваліднай каперацыі.

10. З выданьнем гэтай пастановы касуюцца усе раней выданыя загады і інструкцыі па гэтым пытаньні.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Л. Адзінцоў.*

29 красавіка 1929 г.
№ 30.

## 6. Наказ Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра заканчэньне 1928-29 навуч. году і аб парадку пераводаў і выпускаў у 4-х, 7-мі і 9-ці гадовых школах, фабрычна-заводзкіх сямігодках, школах сялянскай моладзі, школах II ступені і агульна-адукацыйных курсах.**

1. Для пераводу вучняў з групы ў групу і для выпуску вучняў са школы ў бягучым годзе, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе кіравацца:

а) усваеньнем вучнямі адпаведнай групы агульна-абавязковага мінімуму ведаў і навыкаў, паказанага ў праграмах НКА;

б) здавальняючым агульным разьвіцьцём і станам здароўя вучня;

в) грамадзкай актыйнасьцю вучня і яго індывідуальнымі асаблівасьцямі.

2. Перавод вучняў з групу ў групу, альбо выпуск вучняў са школы робіцца школьнаю радаю у канцы вучэбнага году, на падставе даных аб гадавой рабоце і посьпехах вучняў.

*Увага.* Па 4-х гадовых школах, у якіх да гэтага часу школьныя рады не працавалі, патрэбна арганізаваць для выпуску і пераводаў вучняў камісіі пад старшынствам загадчыка школы ў складзе: а) настаўнікаў школы, б) членаў с-савету і камітэту ўзаемадапамогі, в) прадстаўнікаў ячэйкі КП(б)Б, ЛКСМ, г) бацькоў вучняў, а таксама прадстаўнікоў РВК і пашыранай пэдагагічнай рады, альбо першапачатковага настаўніцкага аб'яднаньня.

3. Вучні неадпаведаючыя ўмовам (пералічаным у п. 1) пераводу ў наступную групу, альбо выпуску са школы, пакідаюцца ў тэй самай групе на другі год.

*Увага.* Вучні, якія не пасьпяваюць па двух з наступных відаў навыкаў (пісьмо, чытаньне, лічэньне)—па 1-му канцэнтру, альбо па двух галінах вучэбнага пляну, уключаючы фізвыхаваньне, сьпевы і маляваньне—па другому канцэнтру, пакідаюцца на другі год. Не пасьпяваючыя па аднаму віду навыкаў, альбо па аднэй з галін вучэбнага пляну пераводзяцца ў наступную групу.

4. З школы выпускаюцца вучні, пасьпяваючыя па ўсіх галінах вучэбнага пляну.

5. У канцы навучальнага году, у тэрмін, вызначаны школьнаю радаю (ад 1-го да 3-х тыдняў), праводзіцца падагульненьне гадовай працы па ўсіх школах па ўсіх групах у форме працягу звычайнай школьнай працы.

*Увага 1.* Падагульваньне трэба рузумець, як прывядзеньне ў сыстэму праправанага матарыялу, яго папаўненьне і замацаваньне недастатков прапрацаваных месц.

*Увага 2.* У 7-мі і 9-ці гадовых школах, фабрычна-заводзкіх сямігодках, 3-х і 4-х камплектных школах, ШСМ, школах 2 ступені і агульна-адукацыйных курсах на занятках наогул і асабліва пры падагульваньні гадовай працы пажаданы ўдзел настаўнікаў іншых груп альбо выкладчыкаў прадметаў па назначэньню школьнай рады.

6. У 4-х гадовых школах, у 7-мі і 9-ці гадовых школах, школах II ступені, фабрычна-заводзкіх сямёхгодках і школах сялянскай моладзі выпуск вучняў праводзіцца на месцы працы гэтых школ.

При выпусках у 4-х гадовых школах праводзяцца кантрольныя пісьмовыя работы па роднай мове (у школах нац. менш. і па беларускай мове) і матэматыцы і гутарка настаўніка, членаў школьнай рады альбо членаў камісіі з усёй групай па комплексах.

7. Вынікі гадовай працы 4-х гадовых школ абмяркоўваюцца на пасяджэньні пашыранай пэдагагічнай рады альбо першапачатковага настаўніцкага аб'яднаньня з абавязковым удзелам інспэктара народнай асьветы, альбо члена раймэтбюро, а ў 7-мі і 9-ці гадовых школах, фабрычна-заводзкіх 7-годках, ШСМ, школах II ступені і агульна-адукацыйных курсах—на пасяджэньні школьнай рады.

8. Значны процант другагоднікаў, які наглядаўся на працягу апошніх год, вымагае арганізаваньня і правядзеньня на працягу ўсяго навучальнага году дапамогі непасьпяваючым вучням (матаряльнай і акадэмічнай). З гэтай прычыны рэшту часу да канца навучальнага году трэба скарыстаць з мэтаю правядзеньня ўзмоцненай дапамогі не пасьпяваючым вучням з тым, каб веды вучняў, як пры пераводах, так і выпусках адпавядалі запатрабаваньням праграм НКА.

Адказнасьць за якасьць ведаў вучняў пры пераводах і выпусках ускладаецца на школьныя рады і на загадчыкаў установ.

9. Прымаючы пад увагу недастатковую да гэтага часу сувязь шырокіх колаў савецкай грамадзкасьці з жыцьцём і працай школы, неабходна ўсім школам ужыць захады да азнаямленьня працоўных з жыцьцём і работай школы, для чага трэба скарыстаць увесь час да канца навучальнага году. Формамі азнаямленьня, паміж іншым, могуць быць наведваньне школы ў часе заняткаў прадстаўнікамі ад сельсаветаў, камітэтаў узаемадапамогі, гарсаветаў, жанаддзелаў, партарганізацый, ЛКСМ, рабочых прадпрыемстваў, бацькамі вучняў, а таксама даклады школы ў арганізацыях і на прадпрыемствах.

10. Важным момантам у азнаямленьні шырокай савецкай грамадзкасьці з працай школы трэба лічыць урачысты акт пры заканчэньні навучальнага году, на якім загадчык установы робіць справаздачу аб праробленай працы за год у галінах навучальна-выхаваўчай і гаспадарчай, а таксама робяць свае даклады і органы вучнёўскага самакіраваньньня.

Да ўрачыстага акту школа можа наладзіць выстаўку, (з матарыялаў сабраных на працягу году, а не спэцыяльна для выстаўкі падрыхтаваных), вечар, альбо ранішнік.

11. Загадчыкам школ трэба азнаёміць вучняў і іх бацкоў з парадкам заканчэньня навучальнага году, пераводаў і выпускаў.

12. З выданьнем гэтага наказу касуюцца зацьверджаны НКА 3 сакавіка 1928 г. „Парадак пераводаў і выпускаў“ у 4-х, 7-мі і 9-х гадовых школах, школах сялянскай моладзі, школах II ступені, агульна-адукацыйных курсах у 1927-28 нав. годзе (Бюлетэнь СНК за 1928 г. № 3).

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім*

Сакратар НКАсьветы БССР *Ю. Савіч*

13 красавіка 1929 г.
№ 245—191.

## 7. Наказ Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра пераводы і выпускі ў палітэхнікумах, тэхнікумах, 2-х гадовых пэдагагічных курсах, прафшколах і школах фабрычна-заводзкага вучнёўства.**

1. Калёквіумы, як форма падліку працы вучняў пры пераводах і выпусках у палітэхнікумах, тэхнікумах, 2-х гадовых пэдкурсах, прафшколах і школах фабрычна-заводзкага вучнёўства касуюцца.

2. Пераводы праводзяцца на падставе пад'агульваньня гадовай працы студэнтаў (вучняў) паводле ацэнкі пасьпяховасьці вучняў, якая

даецца выкладчыкамі адпаведных дысцыплін. На падставе ацэнкі пасьпяховасьці студэнтаў (вучняў) усімі выкладчыкамі, прадметна-цыклявыя камісіі ў тэхнікумах, або вытворчыя бюро складаюць характарыстыкі, па якіх пэдагагічная рада робіць пераводы на наступны курс (групу) у пэрыад часу з 1-га да 7 чэрвеня.

3. Для падагульваньня гадовай працы студэнтаў (вучняў) асобнага тэрміну не вызначаць, а праводзіць яго ў часы звычайных заняткаў.

4. Падагульваньне працы навучальнай установы ў цэлым за год і справаздача яе перад шырокімі коламі грамадзкасьці праводзіцца з 8 да 15 чэрвеня.

5. Пераводзяцца з курсу на курс (групы) толькі тыя студэнты (вучні, якія да канца навучальнага году году пасьпяваюць па ўсіх дысцыплінах. Ніякіх умоўных пераводаў не дапушчаецца.

Пры непясьпяховасьці па аднэй дысцыпліне, ці пры невыкананьні 2-х заданьняў па адным або 2-х прадмэтах, студэнт (вучань) пакідаецца на другі год на гэтым самым курсе (групе). Застаўленьне на другі год на першым курсе (групе) забараняецца.

*Увага.* У выключных выпадках пэд. рада з паказаньнем прычын у сваёй пастанове можа даць студэнту (вучню) падрыхтоўку на лета ня больш, як па двух прадметах.

6. З мэтаю памяншэньня ліку другагоднікаў пэд. рада павінна паклапаціцца аб дапамозе тым студэнтам (вучням), якія на працягу ўсяго году, або ў апошнія часы адсталі, прыцягнуўшы да гэтай працы як настаўнікаў, так і вучнёўска-студэнцкія арганізацыі.

7. Для студэнтаў (вучняў) выпускных курсаў (груп) апроч звычайнага гадовага падагульваньня даецца кваліфікацыйная пісьмовая праца праца па праграмна-мэтадычных пытаньнях, якая павінна быць зьвязана з практычнай працай студэнта (вучня) у абранай галіне спэцыяльнасьці.

Тэмы кваліфікацыйных прац вызначаюцца пэдагагічнаю радаю і павінны ахапіць увесь курс па аднэй з галін данае навучальнае ўстановы Распрацаваныя тэмы абгаварваюцца на агульна-курсавым сходзе пад кіраўніцтвам выкладчыка тае дысцыпліны, па якой дадзена тэма.

У тых навучальных установах, дзе такія кваліфікацыйныя тэмы не дадзены, трэба даць і распрацаваць іх да канца навучальнага году, а ў будучым яны павінны давацца ў пачатку навучальнага году,

Кваліфікацыйная тэма зьяўляецца дадаткам да агульнай ацэнкі і кладзецца ў аснову характарыстыкі аўладаньня студэнтам (вучням) праграмна-мэтадычна-практычнымі навыкамі за ўвесь час свайго знаходжэньня у навуч. установе.

8. Выпушчаюцца з навучальнае ўстановы толькі тыя студэнты (вучні) якія да канца навучальнага году выканаюць усю праграму па ўсіх дысцыплінах.

9. Тыя студэнты (вучні) апошняга курсу (групы), якія будуць непасьпяваць па аднэй з дысцыплін, на паўторны курс не пакідаюцца і ім выдаецца пасьведчаньне аб праслуханьні курсу данае навучальнае ўстановы.

10. Кожнаму выпускніку пэдагагічнаю радаю даецца падрабязная характарыстыка аб яго акадэмічнай пасьпяховасьці, грамадзкай працы і пэўнага ўхілу і здольнасьці да тэй ці іншай галіны працы у абранай ім спэцыяльнасьці.

11. Прапануецца ўсім пэд. радам навучальных установ пасьля атрыманьня гэтага наказу скласьці календарны плян пераводаў і выпускаў і справаздачнай кампаніі навучальнай установы перад грамадзкасьцю, кіруючыся вызначанымі тэрмінамі.

12. Адмена калёквіумаў і ўвядзеньне падліку працы ў навучальных установах патрабуе асаблівай увагі з боку кіраўнікоў навучальных устаноў і ўсяго пэдагагічнага складу студэнцкіх (вучнёўскіх) арганізацый. НКА прапануе асабліва сур'езна падысьці да ацэнкі пасьпяховасьці вучняў пры пераводах і выпусках у гэтым навуч. годзе.

За невыкананьне праграм і за слабую падрыхтоўку студэнтаў (вучняў) і выпускнікоў нясуць адказнасьць кіраўнікі навучальных устаноў і ўсе настаўнікі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім*

Сакратар НК Асьветы БССР *Ю. Савіч*

27 красавіка 1929 г.
№ 164—670.

---

## 8. Пастанова Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў Фінансаў і Працы БССР

**пра дапаўненьне інструкцыі свае „Пра пэрыядычныя набаўкі за выслугу гадоў работнікам міліцыі і крымінальнага вышуку“ (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 12/55).**

Народныя Камісарыяты Ўнутраных Спраў, Фінансаў і Працы БССР пастанаўляюць:

Дапоўніць пералік асоб, якім устаноўлена пэрыядычная набаўка за выслугу гадоў, паводле арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 18-VIII 1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 25, арт. 240), наступнымі катэгорыямі пасад:

м) Начальніка Вучэбна-Страявой часьці Школы Міліцыі імя М. В. Фрунзэ;

н) Памочніка Н-ка па Страявой часьці Школы Міліцыі.

Гэтую пастанову ўвесьці ў жыцьцё з 1-га студзеня 1929 году.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*
За Народнага Камісара Фінансаў БССР *М. Кардашэнка.*
Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

29 красавіка 1929 г.
№ 1632

---

## 9. Інструкцыя Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і Ўпаўнаважанага Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР

**пра парадак скарыстаньня для сплаву драўніны, берагоў сплаўных шляхоў і пабудаваных на іх вадападпорных і шляхавых пабудоў.**

*(Выдаецца на падставе Водна-Мэліярацыйнага Кодэксу БССР).*

1. Утрымальнікі (пасэсары і ўладары) вадападпорных пабудоў (плацін) на сплаўных вадазборах, якімі лічацца ўсе рэкі, азёры і каналы, фактычна выгадныя пры натуральным ўзроўні вады для сплаву драўніны плытамі, гонкамі, іх часткамі і ў рассыпку, але не ў суднах, павінны праз свой кошт і пад сваю адказнасьць:

а) зьнімаць на плацінах да пачатку сплаву ўсе падмосьці, розныя падбудовы і прылады, якія перашкаджаюць вольнаму пропуску сплаўной драўніны;

б) забясьпечыць на плацінах да пачатку сплаўнага пэрыяду поўны праход драўніны, што сплаўляецца праз адтуліны плацін і мастоў, пабудаваньнем перад імі дастатковай даўжыні патрэбных накіроўваючых драўляных адводаў і падобных ад іх прыладаў;

в) у вадаспусках існуючых плацін, да пачатку першага вясновага сплаўнага пэрыяду (пасьля выданьня гэтай інструкцыі сьпусьціць чырвоны брус—нізавы лежань) з такім падлікам, каб ён паднімаўся над узроўнем дна вадазбору, ня больш, чым на 0,1 мэтр з верхавой стараны плаціны, або замест гэтага пабудаваць спэцыяльныя лесасплаўныя латакі (плытаходы, бэрнаспускі), жалабкі і г. д. Пры гэтым неабходна, каб у названыя лесаплаўныя латакі падавалася такая колькасьць вады, пры якой сплаў драўніны можа рабіцца бесперашкодна.

*Увага:* Калі паказаныя ў п. „а“ работы патрабуюць грунтоўнай перабудовы плаціны, то яны робяцца паводле арт. арт. 6 і 7 інструкцыі.

2. Пры рамонце і аднаўленьні мастоў на сплаўных шляхох у час сплаву, органы, пад ведамам якіх знаходзяцца гэтыя масты, павінны ўжываць усе захады да таго, каб падмосьці або прылады для рамонту не перашкаджалі вольнаму сплаву драўніны і каб пры некалькіх плытаходных пралётах, хоць адзін з іх быў адчынены для пропуску драўніны.

3. Усялякія загароды, якія перашкаджаюць сплаву, і якія існавалі да выданьня гэтай інструкцыі на сплаўных шляхох павінны здымацца ўтрымальнікамі іх (установамі, арганізацыямі і прыватнымі асобамі). Ачышчэньне сплаўных шляхоў ад падобных прыладаў павінна рабіцца з поўным адсоўваньнем іх з рэчышча (сплаўнага шляху).

4. Нагляд за ўжываньнем захадаў, прадугледжаных арт. арт. 1, 2 і 3 гэтай інструкцыі ўскладаецца на органы мясцовага кіраўніцтва ўнутраных водных шляхоў, начальніка сплава ВСНГ, а калі яны адсутнічаюць у даным месцы, то на мясцовыя выканаўчыя камітэты.

5. Калі ўтрымальнікі водападпорных і рыбалоўных пабудоў не ўжываюць паказаных у арт. арт. 1, 2 і 3 інструкцыі захадаў, то ўстановы і службовыя асобы, паказаныя ў арт. 4 інструкцыі, прад'яўляюць паказаным асобам патрабаваньні аб безадкладным ужываньні гэтых захадаў у назначаны для гэтага тэрмін. У выпадку адмовы з боку ўтрымальнікаў або неўжываньня імі патрэбных захадаў, гэтыя захады ўжываюцца за іх кошт паказанымі вышэй установамі і службовымі асобамі з наступным спагнаньнем выдаткаваных сум у прымусовым парадку. Утрымальнікі ня маюць права спаганяць з каго-небудзь за шкоду, якая зроблена яму дабраахвотным, ці прымусовым ужываньнем паказаных у арт. арт. 1, 2 і 3 інструкцыі захадаў.

6. Калі прадугледжаныя п. „в“ арт. 1 гэтай інструкцыі захады выклікаюць грунтоўнае перабудаваньне вадападпорных пабудоў, або яны пасьля абгляду і абсьледваньня іх органамі мясцовага кіраўніцтва ўнутраных водных шляхоў, начальнікам сплаву ВСНГ або іх упаўнаважанымі (арт. 11 інстр.) ня будуць адпавядаць умовам вольнага і бесперашкоднага пропуску праз іх драўніны, што сплаўляецца, то ўтрымальнікі іх не пазьней за 2 месяцы з дня выданьня гэтай інструкцыі, або з моманту перадачы ім копіі актаў агляду і абсьледваньня пабудовы паказанымі вышэй органамі і службовымі асобамі, павінны ўжываць належныя захады ў парадку арт. 7 інструкцыі для адпаведнага іх перабудаваньня.

7. Утрымальнікі вадападпорных пабудоў, у выпадку перапабудаваньня імі гэтых пабудоў, а таксама і ўсе ўстановы, прадпрыемствы і прыватныя асобы, якія пажадаюць пабудаваць водападпор-

ную пабудову па сплаўным шляху, павінны падаць тэхнічны праэкт з далучэньнем да яго неабходных рысункаў, каштарысаў і інш. матарыялаў адпаведнаму акруговаму зямельнаму органу, на суднаходных рэках—органамі НКШляхоў для атрыманьня ад іх у парадку арт. 8 гэтай інструкцыі адпаведнага дазволу для гэтага.

8. На паказаныя ў арт. 7 органы ўскладаецца абавязак выдачы дазволаў на пабудаваньне ці перабудаваньне вадападпорных пабудоў на сплаўных шляхох, пры чым гэтыя органы павінны даць свае заключэньне ў тым выпадку, калі пабудаваньне ці перабудаваньне гэтых пабудоў можа зрабіць уплыў на ўмовы сплаву, у праціўным выпадку паведамляюць аб тым, што супярэчаньняў няма. Названыя органы павінны даць свае заключэньне і зьвярнуць рысункі, каштарысы і інш. матарыялы ў месячны тэрмін ад дня атрыманьня імі матарыялаў. Да атрыманьня адпаведнага дазволу, ніякія ўстановы, прадпрыемствы або прыватныя асобы ня маюць права распачынаць працу па перабудаваньню, ці па пабудаваньню новых вадападпорных пабудоў на сплаўным шляху.

9. Выдача дазволаў на пабудаваньне ці перабудаваньне вадападпорных пабудоў робіцца ў 2-х мес. тэрмін. У выпадку адмовы ў выдачы дазволу, трэба аднačасова паведамляць аб гэтым заяўніка.

10. Перабудаваньне для сплаву вадападпорных і шляхавых пабудоў на рэках, якія да гэтага часу ня былі сплаўнымі, павінна праводзіцца за кошт зацікаўленых у сплаве драўніны ўстаноў, арганізацый і асоб. Далейшае ўтрыманьне і рамонт пабудоў праводзіцца паводле гэтай інструкцыі на агульных падставах.

11. Органы мясцовага кіраўніцтва ўнутраных водных шляхоў, начальнік сплаву ВСНГ, або іх упаўнаважаныя, а таксама ўласьнікі драўніны, што сплаўляецца, маюць права абсьледаваньня і агляду вадападпорных і шляхавых пабудоў для высьвятленьня прыстасаваньня іх да сплаву і пропуску драўніны, складаньня акту аб нягоднасьці іх і аб патрэбных захадах для палепшаньня іх, а таксама права нагляду за належным і своечасовым ужываньнем гэтых захадаў (арт. арт. 6 і 7).

12. Усе ўтрымальнікі вадападпорных пабудоў з пачатку навігацыі і да 15 мая павінны прапушчаць праз плаціны драўніну, што сплаўляецца бесплатна.

У іншы час утрымальнікі вадападпорных пабудоў павінны прапушчаць праз узьнятую для вададзейнай пабудовы ваду па першым патрабаваньні сплаўніка. За гэты пропуск устанаўляецца плата па згодзе, але ня звыш разьмеру фактычнай шкоды, якая была зроблена за ўвесь час бязьдзейнічаньня вададзейнай пабудовы з прычыны *недахопу вады* і кошту работ, зьвязаных з адчыненьнем і зачыненьнем плаціны. У выпадку, калі згоды ня будзе, складаецца належны акт і справа вырашаецца адпаведнай мясцовай зямельнай камісіяй у парадку, якім вырашаюцца зямельныя спрэчкі.

Пры пабудаваньні новых вадападпорных пабудоў, органы, якія даюць дазвол на іх пабудаваньне, могуць пры выдачы дазволу прадугледжваць парадак і ўмовы сплаву і пропуску пры дапамозе падпорнай вады.

13. За скарыстаньне тэхнічных прыладаў, пабудаваных выключна для сплаву, апроч выпадкаў, паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі, утрымальнікі іх могуць браць асобную плату, устаноўленую ўтрымальнікамі вадападпорных пабудоў па ўзгадненьні з начальнікам сплава ВСНГ у разьмерах, якія забясьпечваюць амартызацыю і выплату эксплёатацыйных выдаткаў. У выпадку адсутнасьці згоды, спрэчкі вырашаюцца ў парадку разгляду зямельных спрэчак, паводле першага

патрабаваньня сплаўніка. За гэты пропуск устанаўляецца плата па ўзгадненьню, але ня звыш разьмеру фактычнай шкоды, якая была зроблена ад бязьдзейнічаньня вададзейнай пабудовы з прычыны недахопу вады і кошту работ, зьвязаных з адчыненьнем і зачыненьнем плаціны.

У выпадку адсутнасьці згоды, складаецца належны акт і справа вырашаецца адпаведнай мясцовай зямельнай камісіяй ў парадку вырашэньня зямельных спрэчак.

Пры пабудаваньні новых вадападпорных пабудоў, органы, якія даюць дазвол на іх пабудаваньне, могуць пры выдачы дазволу прадугледжваць парадак і ўмовы сплаву і пропуску пры дапамозе падпорнай вады.

14. Прапушчаньне драўніны, што сплаўляецца праз вадападпорныя і шляхавыя пабудовы, павінна ўтварацца з належнай асьцярожнасьцю сіламі і сродкамі ўладароў сплаўнай драўніны.

15. Пры псаваньні вадападпорных і шляхавых пабудоў у час праходу праз іх драўніны, што сплаўляецца, складаецца акт. Калі псаваньне зрабілася па віне ўладароў драўніны, якая сплаўляецца, з прычыны неўжываньня імі неабходных і магчымых захадаў перасьцярогі, то яны па ўзгадненьню з утрымальнікамі вадападпорных і шляхавых пабудоў, сплачваюць ім за зробленыя страты, а пры адсутнасьці ўзгодненасьці пытаньне вырашаецца ў парадку разгляду зямельных спрэчак.

16. Права бясплатнага скарыстаньня берагавой паласы, устаноўленае Водна-Мэліарацыйным Кодэксам БССР, даецца ў выпадках:

а) пабудаваньня тэлеграфна-тэлефоннай сеткі і радыё-ўстановак для сплаўных мэтаў;

б) правядзеньня работ, зьвязаных з рэгуляваньнем сплаўных шляхоў, а ўласна: расчысткі, выпростваньня, паглыбленьня, умацаваньня берагоў, расчысткі берагавой паласы, правядзеньня пракопаў, пабудаваньня гідратэхнічных пабудоў, дамб, жылых памяшканьняў для рабочых, памяшканьняў для склада інструмэнтаў і прылад для работы і інш., з правам бясплатнага скарыстаньня для гэтых работ грунту, гравія, каменьняў і кустоў, што знаходзяцца на берагавой паласе;

в) пабудаваньня часовых мэханічных прыладаў для сплаву, пабудаваньня паказальных і перасьцярожных знакаў, вартаўнічых будак наогул пабудаваньня усялякіх часовых будынкаў для патрэб сплаву;

г) правядзеньня дарог для патрэб сплаву і зносін;

д) правядзеньня лясных высечак пры вышуканьнях і работах, прадугледжаных арт. 177 Водна-Мэліарацыйнага Кодэксу;

е) для складу і апрацоўкі лесу, што сплаўляецца, для пабудаваньня плытоў і інш. сплаўных адзінак і для нагрузкі іх, для складу і ахоўваньня інвэнтару;

ж) для бегавой цягі лодак, плытоў і інш. сплаўных адзінак, праходу, праезду і прыстаняў плытавых рабочых і сплаўшчыкаў рассыпной драўніны і для варкі харчу, а таксама для пашы бегавых коняў;

з) для прычалу, нагрузкі і выгрузкі плытоў і інш. сплаўных адзінак і рассыпной драўніны;

і) для абсушкі плытоў і інш. сплаўных адзінак і для складаньня драўніны;

к) для зімаваньня плытоў і інш. сплаўных адзінак, рассыпной драўніны і для пабудаваньня ў сувязі з гэтым часовых жыльлёвых і ня жыльлёвых памяшканьняў, ледарэзаў, ахоўных ад ледаходу дамб і інш. пабудоў, а таксама для ахоўваньня снасьцей і плытавых прыладаў;

л) для работ выкліканых аварыямі плытоў і інш. сплаўных адзінак і рассыпной драўніны, а таксама для ахоўваньня выгружанай драўніны.

*Увага.* Распачатыя пры вызначаным роўні вады і няскончаныя ў гэты час апэрацыі могуць працягвацца пры яго зьніжэньні таксама з дарэмным скарыстаньнем занятага вучастку зямлі на працягу часу, неабходнага для скончэньня сплаўных апэрацый.

17. Выцягнутыя з ракі каменьні, карчы, таплякі і патануўшыя дровы, а таксама і ўсялякія будаўнічыя матарыялы і астачы лесазагатовак складаюцца на берагавой паласе часова і да пачатку разводзьдзя павінны быць зьвезены або да іх павінны быць ужыты тэхнічныя захады перасьцярогі ад занясеньня іх у раку. Мейсцы для здабываньня грунту, жвіру, каменьняў і хмызьняку неабходна выбіраць з такім разьлікам, каб не псаваліся берагі ракі і не зьнішчаліся карысныя расьліны. Пры гэтым выкапаныя ямы і равы павінны быць да пачатку сплаву засыпаны і падроўнены, гальлё, трэскі і верхавіны павінны быць сабраны ў кучы і спалены на дастатковай адлегласьці ад сумежнага лесу.

*Увага.* Таплякі (затануўшыя дровы і бярвеньні), якія не дастаны з дна ракі ўласьнікамі сплаўной драўніны ў вызначаныя начальнікам сплаву ВСНГ тэрміны пераходзяць ва ўласнасьць арганізацый і асоб, якія дасталі іх.

18. Усе ўстановы, арганізацыі і асобы, якія загатаўляюць драўніну для сплаву, павінны паведаміць не пазьней за 2 тыдні пасьля адводу ім лясных вучасткаў адпаведных начальнікаў сплаву ВСНГ аб аб‘ёме і асартымэнтах прызначанай для сплаву драўніны па асобных водных шляхох. Для падтрыманьня пададзеных заяў установы, прадпрыемствы і асобы павінны атрымаць ад начальніка сплаву ВСНГ даведку аб уключэньні заяўленай драўніны ў наступны сплаў.

19. Разьмеркаваньне складачных месц, якія знаходзяцца па-за лясьніцтвам на берагох рэк для ўкладкі і зьвязкі вывазімых лесаматарыялаў, робіцца начальнікам сплаву ВСНГ паводле хранолёгічнага парадку паступленьня заяў на сплаў лесу. У першую чаргу права заняцьца плытбішч і складаў даецца тым арганізацыям, якія падалі заявы раней, пры чым, пры канкурэнцыі перавага павінна давацца дзяржаўным органам і лясным каапэратывам.

20. Складачныя месцы, што знаходзяцца ў лясьніцтвах, даюцца лясьнічымі, якія павінны папярэдня дагаварыцца з начальнікам сплаву ВСНГ аб грузаемкасьці асобных прыстаняў і месц пачатку сплаву молем і плытамі. Адведзеныя мейсцы паказваюцца ў лесарубачных білетах, або ў інш. дакумантах, якія выдаюцца лесазагатоўшчыкам. Не пазьней за 2 тыдні пасьля атрыманьня гэтых білетаў або дакумантаў, яны павінны падавацца начальніку сплаву ВСНГ для рэгістрацыі.

21. У выпадках, калі будуць спрэчкі паміж некалькімі арганізацыямі, якія падалі заявы начальніку сплаву ВСНГ адначасова, на якое-небудзь адно плытбішча, перавага даецца арганізацыям, якія праводзілі або праводзяць на гэтым водазборы працу па павялічэньню яго сплаваздольнасьці.

22. Сплаў драўніны, якая загатоўлена звыш устаноўленай сплавапрапускной здольнасьці рэк, дапушчаецца толькі пасьля правядзеньня сплаву драўніны ў колькасьці вызначанай начальнікам сплаву ВСНГ, да запаўненьня прапускной здольнасьці ракі, або пакідаецца да наступнага году, аб чым начальнік сплаву ВСНГ паведамляе арганізацыі і асобы пры рэгістрацыі іх заяў.

*Увага.* Лімітная сплавапрапускная здольнасьць асобных сплаўных шляхоў устанаўляецца на сплаўных нарадах.

23. Гэтая інструкцыя не пашыраецца на знаходзячыяся ў выключным веданьні НК Шляхоў: а) бешлоты пры вадазборах, б) вадаструмацельныя плаціны, в) шлюзы і паўшлюзы, г) землі пры гідратэхнічных пабудовах і пры канавах.

Пропуск праз паказаныя пабудовы сплаўной драўніны робіцца паводле асобных правіл, якія выдаюцца Упаўнаважаным НКШляхоў па ўзгадненьню з ВСНГ БССР.

24. Асобы, якія парушаюць патрабаваньні гэтай інструкцыі адказваюць у адпаведных выпадках у крымінальным ці адміністрацыйным парадку.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*
За Народнага Камісара Земляробства БССР *Л. Місюкоў.*
Нам. Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту
Шляхоў СССР пры СНК БССР *А. Іваноў.*
Начальнік Сплаву Бел.-Заходняга раёну *Бароўскі.*

25 студзеня 1929 г.

---

## 10. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра абвяшчэньне тыпавага палажэньня аб кіраваньні вытворчымі прадпрыемствамі, уваходзячымі ў склад трэстаў ВСНГ БССР.

Пры гэтым абвяшчаецца зацьверджаная пастановай Прэзыдыуму ВСНГ БССР за 12 студзеня г. г. (прат. № 14, п. 27) тыпавае палажэньне аб кіраваньні вытворчымі прадпрыемствамі, уваходзячымі ў склад трэстаў ВСНГ БССР, у адпаведнасьці з якім прапануецца трэстам ВСНГ БССР пераглядзець і скласьці палажэньне аб кіраваньні паасобнымі прадпрыемствамі.

Разам з гэтым касуецца абвешчанае ў № 1 Бюл. СНК БССР за 1928 г. палажэньне за 22 сьнежня 1927 г.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*
Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

30 студзеня 1929 г.
№ 72.

---

*Дадатак.*

## Тыпавае палажэньне

### пра кіраваньне паасобным вытворчым прадпрыемствам, якое ўваходзіць у склад трэстаў ВСНГ БССР.

1. Фабрыкі, заводы, будаўніцтвы, камбінаваныя вытворчасьці і промыслы, куставыя кіраўніцтвы і інш. вытворчыя прадпрыемствы, якія ўваходзяць у склад трэстаў, знаходзяцца пад агульным кіраўніцтвам трэсту, як адзінага прадпрыемства.

2. Непасрэднае кіраваньне вытворчым прадпрыемствам, што ўваходзіць у склад трэсту, даручаецца дырэктару, які назначаецца і звальняецца кіраўнікам (кіраўніцтвам) трэсту, пры чым гэтыя назначэньні і звальненьні зацьвярджаюцца ВСНГ БССР. Дырэктар дзейнічае самастойна на падставе палажэньня аб кіраваньні адпаведным прадпрыемствам, распрацоўваемага паводле гэтага тыпавага палажэньня кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту*) і даверанасьці, выдадзенай кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту тэрмінам на адзін год.

---

*) Разам з дырэктарам і зацьверджанага кіраўніком трэсту.

3. Кіраўнік (кіраўніцтва) трэсту мае права на паказаны вышэй тэрмін, па згодзе з дырэктарам вытворчага прадпрыемства, назначыць яму намесьніка, пры чым унутранае разьмяркаваньне працы паміж дырэктарам і яго намесьнікам устанаўляецца дырэктарам прадпрыемства.

4. Дырэктар і яго намесьнік могуць на працягу паказанага ў даверанасьці тэрміну звальняцца з пасады толькі тады, калі будзе выяўлена судом або трэстам неадпаведнасьць іх да ўскладзеных на іх абавязкаў, негаспадарлівасьць, або злачынства, пры чым звальненьне з пасады, або перавод на іншую пасаду дырэктара вытворчага прадпрыемства робіцца з ведама ВСНГ БССР.

5. Разьмер і форма платы дырэктару прадпрыемства і яго намесьніку вызначаюцца трэстам, які пры гэтым робіць умову з паказанымі асобамі.

6. Галоўны (старшы) бугальтар і тэхнічны кіраўнік вытворчага прадпрыемства і загадчыкі дапаможных прадпрыемстваў і асобных вытворчасьцяў камбіната назначаюцца і звальняюцца дырэктарам прадпрыемства, пры чым гэтыя назначэньні і звальненьні зацьвярджаюцца кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту.

7. Адм.-тэхнічны пэрсанал прадпрыемства дзейнічае на падставе распрацаваных трэстам і зацьверджаных ВСНГ БССР палажэньняў аб правох і абавязках адм.-тэхн. пэрсаналу на ўваходзячых у склад трэсту прадпрыемствах.

Распараджэньні дырэктара прадпрыемства ў тэхнічна-вытворчай галіне выдаюцца праз тэхнічнага кіраўніка прадпрыемства, распараджэньні якога могуць касавацца дырэктарам толькі праз таго-ж кіраўніка.

8. Дырэктар зьяўляецца галоўнай службовай асобай на прадпрыемстве, кіруе ўсёй яго працай і загадвае маёмасьцю на падставе выдадзенай яму даверанасьці, выконвае распараджэньні і дырэктывы кіраўніка (кіраўніцтва) трэсту, падае яму справаздачы і з пачатку выкананьня сваіх службовых абавязкаў падлягае крымінальнай, грамадзянскай і дысцыплінарнай адказнасьці за цэласьць даручанай яму маемасьці і за гаспадарчае вядзеньне справы, у паасобку за выкананьне плянавай і фінансавай дысцыпліны, выкананьне каляктыўных дагавароў у межах адпаведнага прадпрыемства і за выдаткаваньне крэдытаў па іх простаму прызначэньню.

9. У паасобку да кампэтэнцыі дырэктара вытворчага прадпрыемства належыць:

а) арганізацыя вытворчасьці і кіраваньне ўсімі відамі работ прадпрыемства і ўсіх яго асобных цэхаў і частак;

б) прыняцьце ўсіх неабходных захадаў да рацыяналізацыі вытворчасьці, у паасобку: ужываньне вынаходак, калі яны не зьвязаны з вялікімі выдаткамі, непрадугледжанымі вытворча-фінансавым плянам (у палажэньні аб асобным прадпрыемстве трэст мае права паказаць вышэйшы разьмер выдаткаў).

в) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці і калькуляцыі, паводле ўстаноўленай сыстэмы і дырэктыў кіраўніка (кіраўніцтва) трэсту, складаньне балянсаў, каштарысаў і прамфінпляну па формах і ў тэрміны, устаноўленыя кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту, вядзеньне справаводзтва, зносін па справах прадпрыемства з усімі органамі і асобамі, прадстаўніцтва па ўсіх справах прадпрыемства;

*Увага.* Зносіны з вышэйшымі органамі СССР, БССР і інш. саюзных рэспублік, а таксама з ВСНГ БССР па прынцыповых пытаньнях робіцца праз трэст.

г) распрацоўка штатаў прадпрыемства і паданьне на зацьверджаньне трэсту;

д) прыйманьне і звальненьне, паводле чынных законаў і заключаных трэстам каляктыўных дагавароў і тарыфных згод, рабочых і служачых прадпрыемства;

е) устанаўленьне правіл унутранага парадку і норм выпрацоўкі (зьдзельнай і гадзіннай) у парадку адпаведных правіл і пастаноў;

ж) ужываньне ўсіх неабходных мерапрыемстваў да аховы маемасьці прадпрыемства, у тым ліку і мерапрыемстваў пажарнай бясьпекі, сваечасовае страхаваньне даручаемай маёмасьці;

з) нагляд за санітарным становішчам прадпрыемства, за сваечасовым ужываньнем захадаў для перасьцярогі ад усялякіх няшчасьцяў з людзьмі і аварый з машынамі і абсталяваньнем, а таксама за ажыцьцяўленьнем правіл аховы працы і тэхнікі бясьпекі, сваечасовае паведамленьне інспэктара працы і трэста аб усіх здарыўшыхся няшчасьцях і аварыях;

і) ужываньне ўсіх захадаў да сваечасовай спробы паравых катлоў і інш. абсталяваньня, якія паводле чыннага заканадаўства, падлягаюць спробе;

к) нагляд за тым, каб на складах і ў вытворчасьці прадпрыемства ня было лішкаў звыш лімітных норм (факультатыўна ў адпаведнасьці да мясцовых умоў, выключаючы гатовыя вырабы, якія ў несэзонны час магчыма перавысяць ліміт);

л) выкананьне ў межах зацьверджанага трэстам каштарысу сярэдняга і дробнага рамонту (без падачы тытульных сьпісаў), бягучага рамонту, устаноўка дробных машын і дапаможнага абсталяваньня;

м) выкананьне па даручэньнях трэсту і пад яго кантролем адпаведна да зацьверджаных плянаў новага будаўніцтва, капітальнага рамонту, даабсталяваньня і пераабсталяваньня прадпрыемства;

н) найманьне і здача ў арэнду складаў, памяшканьняў і адчужэньне, паводле чынных законаў старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня прадпрыемства;

о) заключэньне ўсякіх дагавораў і ўгод і выдача ў межах і ў парадку ўстаноўленых трэстам вэксалёў, дысконт купецкіх вэксалёў;

п) адчыненьне ад імя трэсту па прадпрыемству ва ўсіх крэдытных установах бягучых рахункаў, атрыманьне па іх грошай і правядзеньне інш. апэрацый;

р) выдача даверанасьцяй у парадку перадаручэньня.

*Увага 1.* Усякія выдаткаваньні, не прадугледжаныя зацьверджанымі каштарысамі і плянамі, робяцца дырэктарам прадпрыемства толькі з дазволу кіраўніка (кіраўніцтва) трэсту. Толькі ў выпадку безадкладнасьці дырэктар мае права пад сваю адказнасьць рабіць названыя выдаткі з неадкладным паведамленьнем трэсту.

*Увага 2.* У палажэньні аб асобным прадпрыемстве трэба паказваць, што дырэктар прадпрыемства мае права выдаваць вэксалі і атрымліваць пазычкі пад прадукцыю прадпрыемства, але з тым, каб агульная сума завінавачанасьці не перавышала ў кожны момант дакладна азначанага ў палажэньні для кожнага віду завінавачанасьці ліміту, прычым кожны вэксаль і інш. даўгавая абавязанасьць павінны падпісвацца дырэктарам і сьцьвярджацца галоўным (старшым) бугальтарам прадпрыемства.

10. Штогод, на падставе заданьняў ВСНГ БССР, кіраўнік (кіраўніцтва) трэсту дае вытворчаму прадпрыемству ва ўстаноўлены тэрмін арыентыровачнае заданьне (кантрольныя лічбы), на падставе якіх па

формах, устаноўленых трэстам, дырэктар да назначанага трэстам тэрміну падае дэтальную каляндарную вытворча-фінансавую праграму на наступны апэрацыйны год (прамфінплян). Распрацаваны дырэктарам прамфінплян разглядаецца трэстам сумесна з дырэктарам прадпрыемства і зацьвярджаецца кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту. Таксама і ўсялякія зьмены ўносяцца ў дзейнічаючы прамфінплян толькі пасьля папярэдняга ўзгадненьня іх трэстам з дырэктарам прадпрыемства.

Плян новага будаўніцтва, капітальнага рамонту, даабсталяваньня і пераабсталяваньня прадпрыемства таксама разглядаецца трэстам сумесна з дырэктарам прадпрыемства.

11. Вытворчае прадпрыемства пры распрацоўцы прамфінпляну складае каштарысны сабекошт прадукцыі, якая вырабляецца, на кожны калькуляцыйны пэрыяд, устаноўлены трэстам.

Зацьверджаны трэстам сабекошт прымаецца ў аснову нарадаў-заказаў, якія даюцца трэстам вытворчаму прадпрыемству.

Усякія зьмены элемэнтаў, якія складаюць названы сабекошт незалежна ад працы прадпрыемства (зьмена падатку, норм амартызацыі, заработнай платы і налічэньняў на яе, загатовачнага кошту сырцу апалу, матарыялу, паўфабрыкатаў, якія трэст перадае прадпрыемству, ставак арэнднай платы і камунальных паслуг), а таксама і зьмены, якія вынікаюць з прычыны дастаўкі трэстам сырцу, апалу, матарыялу і паўфабрыкатаў горшай якасьці, калі гэтыя зьмены зьяўляюцца пасьля зацьверджаньня прамфінпляну, уносяцца ў якасьці паправак да каштарыснага сабекошту. Разрахунак паміж трэстам і прадпрыемствам робіцца на падставе зацьверджанага трэстам сабекошту прадукцыі.

12. Адпаведна да зацьверджанага трэстам прамфінпляну, трэст дае, а вытворчае прадпрыемства прымае для выкананьня заказы на выпрацоўку і здачу свае прадукцыі трэсту па сабекошту, вылічанаму парадкам паказаным у п. 13 гэтага палажэньня.

13. Для выкананьня ўстаноўленага прамфінпляну да пачатку апэрацыйнага году (або на кожны квартал па ўстанаўленьню трэсту) кіраўнік (кіраўніцтва) сумесна з дырэктарам вытворчага прадпрыемства вызначае неабходныя для прадпрыемства грашовыя сродкі і матарыяльныя рэсурсы па асноўных элемэнтах: сырцу, апалу, матарыялах, паўфабрыкатах, гатовых вырабах і інш. паколькасьці і па грашовай ацэнцы, пры гэтым ўстанаўляюцца лімітныя нормы запасаў, якія могуць знаходзіцца на прадпрыемстве, а таксама разьмер дадзенага прадпрыемству права крэдытаваньня.

14. Трэстам сумесна з дырэктарам прадпрыемства ўстанаўляецца росьпіс, у якой вызначаецца колькасьць, якасьць і каляндарныя тэрміны па падрыхтоўцы трэстам для прадпрыемства сырцу, паўфабрыкатаў, апалу і асноўных вытворчых матарыялаў па сабекошту адпаведна да прамфінпляну і ўстаноўленых нормамі запасаў.

15. Падрыхтоўка для прадпрыемства імпартных матарыялаў і абсталяваньня робяцца выключна праз трэст. Падрыхтоўка для прадпрыемства сырцу, паўфабрыкатаў, асноўных і інш. матарыялаў, апалу і абсталяваньня, як агульнае правіла, робіцца праз трэст, але ў асобных выпадках можа быць перададзена ў залежнасьці ад мясцовых умоў для выкананьня прадпрыемству, што павінна прадугледжвацца прамфінплянам.

Трэст нясе адказнасьць за страты прадпрыемства, якія вынікаюць ад несваечасовага і неадпаведнага забясьпечаньня прадпрыемства грашовымі і матарыяльнымі сродкамі (сырэц, апал і інш.), калі гэта праводзіцца праз трэст.

16. Прадпрыемства прымае сырэц, апал і матарыял, якія загатаўляюцца для прадпрыемства, па колькасьці і якасьці, што афармляецца адпаведнымі актамі, спробамі, аналізамі і інш. Страты, вынікаючыя ад несваечасовага і незалежнага афармленьня прыйманьня, залічаюцца за кошт прадпрыемства.

17. Збыт усяе прадукцыі прадпрыемства, як агульнае правіла, робіцца праз трэст. Трэст можа даваць прадпрыемству ў залежнасьці ад мясцовых умоў права рэалізацыі прадукцыі, самастойнага прыйманьня і выдачы заказаў на ўмовах і ў разьмеры, вызначаных кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту. Калі ў нарадзе-заказе не ўстаноўлена іншых тэрмінаў здачы прадукцыі, то прадпрыемства здае трэсту прадукцыю па меры яе выхаду.

18. Пры неадпаведнасьці здаваемай прадпрыемствамі прадукцыі да ўстаноўленых нарадам-заказам тэхнічных умоў, а таксама ў выпадках здачы браку і інш. дэфэктыўнага тавару, складаецца трэстам акт з удзелам прадстаўніка прадпрыемства, на падставе якога акту трэст мае права зрабіць адпаведнае зьніжэньне абумоўленай нарадам-заказам цаны. Адсутнасьць акту зьяўляецца довадам адпаведнасьці здадзенай прадукцыі да ўмоў нараду-заказу.

19. Усе страты, якія нясе трэст з прычыны няздачы прадукцыі па віне прадпрыемства ва ўстаноўлены тэрмін, залічаюцца за кошт прадпрыемства, прычым трэст мае права зьмяніць па згодзе з дырэктарам прадпрыемства тэрмін забясьпечаньня прадпрыемства.

20. На вытворчым прадпрыемстве вядзецца самастойнае рахунказодства і складаецца балянс і калькуляцыя па формах і паводле інструкцыі, зацьверджанай кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту.

*Увага.* Пры складаньні рэзультацыйнага рахунку прадпрыемства кіруецца спэцыяльнай інструкцыяй трэста, распрацаванай паводле загаду ВСНГ СССР за 11 кастрычніка г. г. № 1035 (З. З. ВСНГ СССР № 25 за 1927-28 г.).

21. Дырэктар вытворчага прадпрыемства падае кіраўніку (кіраўніцтву) трэста пэрыадычныя справаздачы аб дзейнасьці прадпрыемства ў тэрміны і па формах, устаноўленых трэстам. Не пазьней за $1^1/_2$ мес. пасьля сканчэньня апэрацыйнага году прадпрыемства падае трэсту справаздачу за апэрацыйны год і балянс. Для складаньня гадавой справаздачы абавязкова робіцца, паводле ўстаноўленых правіл, інвэнтарны сьпіс з ацэнкай усяе маемасьці прадпрыемства.

22. Частка экономіі, якая вызначаецца ў разьмеры розьніцы паміж каштарысным сабекоштам прадукцыі прадпрыемства (п. 11 палажэньня) і сапраўдным сабекоштам, які ўстанаўляецца на падставе справаздачнай калькуляцыі і зьяўляецца вынікам працы прадпрыемства без паніжэньня якасьці прадукцыі,—паступае ў распараджэньне дырэктара прадпрыемства. Разьмеркаваньне гэтай часткі экономіі для прадпрыемства вызначаецца кіраўніком (кіраўніцтвам) трэсту з удзелам дырэктара прадпрыемства ў межах норм і ў парадку, устаноўленым інструкцыяй СПА за 14/VI 1928 г. „аб нормах, мэтах і парадку выдаткаваньня вытворчым прадпрыемствам атрыманай экономіі“.

23. Канчатковыя вынікі працы прадпрыемства вызначаюцца пры зацьверджаньні заключнага балянсу і гадовай справаздачы трэсту. Тады-ж робіцца канчатковы разрахунак па экономіі і перавыдаткаваньню паміж трэстам і прадпрыемствам.

24. Дырэктар вытворчага прадпрыемства мае права абскардзіць неправільныя і немэтазгодныя дзеяньні трэсту праз кіраўніка (кіраўніцтва) трэсту ў ВСНГ БССР бяз права, аднак, прыпыненьня абскарджанага распараджэньня.

25. Дырэктар павінен паказваць належным органам трэсту і ВСНГ БССР для агляду ўсе справы, склады і інш. і рабіць ім усякую дапамогу пры рэвізіі, абсьледваньні і інструктаваньні дзейнасьці прадпрыемства.

26. Ніякія арганізацыі, установы і асобы, апроч тых, якім гэтыя правы дадзены паводле чынных законаў і статуту трэста, ня маюць права ўмешвацца ў адм.-гаспадарчае жыцьцё вытворчага прадпрыемства і патрабаваць ад яго якіх-небудзь справаздач і зьвестак. На тэрыторыі прадпрыемства ўсе ўстановы і асобы падпарадкоўваюцца законным распараджэньням і загадам дырэктара прадпрыемства.

27. Тавары прадпрыемства павінны мець, паводле чынных законаў, асобны таварны знак, на якім паказваюцца фірма трэсту і прадпрыемства.

28. Прадпрыемства мае пячатку ўстаноўленага трэстам, па згодзе з ВСНГ БССР, узору.

---

## 11. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра абвяшчэньне тыпавага палажэньня пра правы і абавязкі адміністрацыйна-тэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу вытворчых прадпрыемстваў ВСНГ БССР.

Пры гэтым абвяшчаецца для выкананьня зацьверджанае Старшынёю ВСНГ БССР тыпавае палажэньне пра правы і абавязкі адміністрацыйна-тэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу вытворчых прадпрыемстваў ВСНГ БССР.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *У. Стракоўскі.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

---

*Дадатак.*

Зацьвярджаю.
Старшыня ВСНГ БССР *Карп.*
13 сакавіка 1929 г.

## Тыпавае палажэньне

### пра правы і абавязкі адміністрацыйна тэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу вытворчых прадпрыемстваў.

#### 1. Агульныя палажэньні.

1. Гэтае палажэньне пашыраецца на ўвесь адміністрацыйна-тэхнічны і гаспадарчы склад вытворчых прадпрыемстваў.

2. На чале вытворчага прадпрыемства стаіць дырэктар, які назначаецца і звальняецца кіраўнікОМ трэсту, прычым гэтыя назначэньні і звальненьні зацьвярджаюцца Прэзыдыумам ВСНГ БССР.

3. Пры дырэктары існуюць 2 памочнікі дырэктара: а) памочнік дырэктара па тэхнічнай частцы і б) памочнік дырэктара па працы, якія назначаюцца і звальняюцца дырэктарам прадпрыемства, прычым гэтыя назначэньні і звальненьні зацьвярджаюцца кіраўнікОм трэсту.

*Увага.* На больш дробных прадпрыемствах можа і ня быць памочніка дырэктара па працы, прычым яго абавязкі выконваюцца непасрэдна дырэктарам; абавязкі памочніка дырэктара па тэхнічнай частцы могуць выконвацца старшай, з складу адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, асобай якая зьяўляецца ў гэтым выпадку памочнікам дырэктара прапрыемства па тэхнічнай частцы.

4. Назначэньне старшага (галоўнага) бухгальтара прадпрыемства, а таксама і звальненьне робяцца дырэктарам прадрыемства, прычым гэтыя назначэньні і звальненьні зацьвярджаюцца кіраўніком трэсту.

5. Назначэньні і звальненьні іншага адміністрацыйна - тэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу робяцца дырэктарам прадпрыемства па прадстаўленьню адпаведнай асобы, якой гэты працаўнік непасрэдна падпарадкаваны.

6. Вызначэньне штатаў розных частак прадпрыемства, а таксама і ўзнагароды працаўнікоў прадпрыемства робіцца ва ўстаноўленым парадку дырэктарам па прадстаўленьню асоб, якім гэтыя часткі непасрэдна падпарадкаваны. Індывідуальныя працоўныя дагаворы з працаўнікамі прадпрыемства заключацца дырэктарам прадпрыемства або па яго даручэньню, адным з яго памочнікаў.

7. Распараджэньні, якія тычацца якой-небудзь часткі прадпрыемства альбо работы асобных працаўнікоў даюцца вышэйшымі за іх асобамі праз асоб, якім адпаведная частка прадпрыемства ці паасобны працаўнік непасрэдна падпарадкаваны, за выключэньнем безадкладных выпадкаў.

8. На тэрыторыі прадпрыемства ўсе асобы абавязаны выконваць законныя распараджэньні дырэктара прадпрыемства і ўпаўнаважаных ім асоб.

9. Увесь адміністрацыйна - тэхнічны пэрсанал падпарадкоўваецца вышэйшым за іх па арганізацыйнай структуры асобам і павінен:

а) выконваць ўскладзеныя на іх абавязкі, скарыстоўваючы ўстаноўленыя для іх правы і кіруючыся даверанасьцю, калі яна ім выдадзена;

б) ахоўваць ўсе законы, якія тычацца іх працы, а таксама інструкцыі ВСНГ БССР, трэсту і дырэктара прадпрыемства;

в) выконваць усе законныя распараджэньні вышэйшых за іх асоб.

*Увага.* У выпадку невыкананьня працаўніком распараджэньня вышэй стаячага працаўніка, гэта асоба мае права адсунуць такога працаўніка ад работы да разгляду справы ва ўстаноўленым парадку, без аплаты за страчаны час.

10. Працаўнікі адм.-тэхн. і гаспадарчага пэрсаналу адносна падпарадкаванай ім часткі прадпрыемства павінны:

а) сачыць за дакладным і своечасовым выканьнем падпарадкаванымі асобамі ўскладзеных на іх абавязкаў;

б) наглядаць за захоўваньнем законаў аб працы, калектыўных умоў, правіл унутранага парадку;

в) наглядаць за выкананьнем распараджэньня дырэктара прадпрыемства і інш. асоб, якія маюць на гэта права;

г) наглядаць за захоўваньнем зацьверджаных для прадпрыемства прамфінплянаў, вытворчых праграм, устаноўленых для адпаведнай часткі прадпрыемства;

д) наглядаць за правядзеньнем мерапрыемстваў па ахове працы і тэхніцы бясьпекі, за правільным скарыстаньнем устаноўленых агароджаў і перасьцярожных сродкаў і аховы правіл па тэхніцы бясьпекі і фабрычна-заводзкай санітарыі па падпарадкаванай гэтаму працаўніку частцы прадпрыемстваў, а таксама прыйманьне своечасовых захадаў да папраўкі заўважаных недахопаў;

е) удзельнічаць ў распрацоўцы плянаў чарговасьці працы, па рацыяналізацыі вытворчасьці па тэхнічнаму нармаваньню працы і навукова-дасьледчых работ, а таксама пры абгаварэньні вынікаў гэтых работ і іх скарыстаньня;

ж) удзельнічаць у абгаварэньні плянаў працы па тэхніцы бясьпекі і ахове працы і правядзеньні іх пасьля зацьверджаньня на прадпрыемстве;

з) удзельнічаць у разглядзе распрацаваных іншымі часткамі прадпрыемства пытаньняў, якія маюць непасрэдныя адносіны да функцый падпарадкаванай часткі: праэктаў па пераабсталяваньню і пашырэньню даручанай часткі прадпрыемства, устанаўленьне форм справаздачнасьці і г. д.;

і) наглядаць за сваечасоваю падачаю ў бухгальтэрыю і інш. часткі прадпрыемства ўстаноўленых зьвестак па выдаткаваньню апалу, матарыялаў, энэргіі, рабсілы і інш.;

к) сваечасова складаць устаноўленыя справаздачы аб дзейнасьці падпарадкаванай працаўніку часткі прадпрыемства;

л) наглядаць за ўзгадненьнем работы падпарадкаванай часткі прадпрыемства з працай іншых частак прадпрыемства.

*Увага.* Разнагалосьсі паміж часткамі прадпрыемства разьвязваюцца працаўнікам, якому гэтыя часткі падпарадкаваны.

11. Усе працаўнікі адм. і тэхнічнага пэрсаналу пры выкананьні свае работы павінны:

а) наглядаць за эканомным і мэтазгодным выдаткаваньнем сырцу, паўфабрыкатаў, апалу, матарыялаў, а таксама за правільным і мэтазгодным выдаткаваньнем рабсілы;

б) дакладваць працаўніку, якому яны непасрэдна падпарадкаваны, аб няспраўнасьцях абсталяваньня, аб несваечасовым і недастаковым задавальненьні інструмэнтамі, сырцом, паўфабрыкатамі, энэргіяй, матарыяламі і аб усіх парушэньнях у рабоце прадпрыемства;

в) быць прадстаўніком у межах свае кампэтэнцыі ад імя прадпрыемства;

г) рабіць адпаведныя даклады на вытворчых і тэхнічных нарадах і ўсялякім чынам ужываць захады да выкананьня прынятых дырэктарам прадпрыемства пастаноў гэтых нарад.

12. Працаўнікі адм.-тэхн. і гаспадарчага пэрсаналу маюць права:

а) касаваць распараджэньні непасрэдна падлеглых ім працаўнікоў праз гэтых-жа працаўнікоў, а таксама патрабаваць, каб распараджэньні вышэйшых працаўнікоў па падпарадкаванай ім частцы прадпрыемства праводзілася праз іх, выключаючы безадкладныя выпадкі;

б) абскарджваць распараджэньні вышэйшых працаўнікоў тым асобам, якім даўшыя распараджэньні падпарадкаваны, але не прыпыняючы атрыманых распараджэньняў.

*Увага 1.* Памочнік дырэктара і старшы (галоўны) бухгальтар маюць права абскардзіць распараджэньні дырэктара прадпрыемства кіраўніку трэсту, не прыпыняючы, аднак, выкананьня гэтага распараджэньня.

*Увага 2.* За ўсякія перашкоды і прасьледваньне працаўнікоў за ўжываньне паказанага права абскарджаньня вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

в) ва ўстаноўленым парадаку накладаць на падпарадкаваных працаўнікоў спагнаньні і прымаць захады да матарыяльнага заахвочваньня;

г) адмаўляцца ад перадачы для работы непрыгоднай якасьці матарыялаў і абсталяваньня да спэцыяльнага пісьмовага загаду вышэйшага працаўніка;

д) атрымоўваць неабходныя матарыялы па калькуляцыі, падліку, статыстыцы, бухгальтэрыі і інш. у межах устаноўленага пляну, або па згодзе з кіраўнікамі адпаведных частак прадпрыемства.

13. Калі паказаныя ў папярэднім п. працаўнікі не абскарджваюць адпаведных распараджэньняў ва ўстаноўленым парадку, яны нясуць за гэтае распараджэньне адказнасьць, нават, калі яны заявілі аб сваёй нязгодзе асобе, якая дала распараджэньне.

14. Працаўнікі ва ўстаноўленым парадку адказваюць за парушэньне гэтага палажэньня, за невыкананьне ўскладзеных на іх па працоўнаму дагавору абавязкаў у поўным аб'ёме і за нескарыстаньне сваіх праў у тых выпадках, калі ў выніку гэтага зьявілася страта для прадпрыемства; асобы адм. складу нясуць апроч таго адказнасьць і за работу падпарадкаваных ім частак прадпрыемства.

15. Працаунікі інж.-тэхн. пэрсаналу, у выпадку абвінавачаньня іх у службовых парушэньнях, якія цягнуць звальненьне з пасады, маюць права патрабаваць адпаведную экспэртызу з удзелам прадстаўнікоў ІТС прафсаюзаў.

**II. Правы і абавязкі дырэктара прадпрыемства.**

16. Дырэктар прадпрыемства кіруе прадпрыемствам на падставе статуту трэсту, зацьверджанага трэстам палажэньня аб вытворчым прадпрыемстве і даверанасьці, якая выдадзена яму трэстам.

17. На абавязак дырэкрара ўскладаецца арганізацыя апарату прадпрыемства, каардынаваньне работы асобых яго частках, кіраваньне праз сваіх памочнікаў і кіраўнікоў непасрэдна яму падпарадкаваных аддзелаў і частак гэтага прадпрыемства, ўсёй адмінстрацыйна-вытворчай, эканамічнай, фінансавай і гаспадарчай дзейнасьцю прадпрыемства, даючы адпаведным працаўнікам неабходную самастойнасьць пры выкананьні асобных работ у межах іх кампэтэнцыі, а таксама правяраючы работу адм.-тэхн. пэрсаналу, выкананьне сваіх заданьняў і паказаньняў і фактычную адказнасьць адпаведных працаўнікоў за выконваемую работу.

18. Дырэктар кіруе ўсімі апэрацыямі прадпрыемства, распараджаецца маёмасьцю, паводле выдадзенай яму даверанасьці, сачыць за дакладным і своечасовым выкананьнем прамфінплянаў і заказаў, за зьніжэньнем сабекошту і палепшаньнем якасьці прадукцыі.

19. Дырэктар зацьвярджае:

а) прамфінпляны па прадпрыемству і справаздачы па іх выкананьню;

б) агульны распарадак работы прадпрыемстваў,

в) адпаведныя тэхніка-вытворчыя і эканамічныя нормы для прадпрыемства;

г) каштарысны і справаздачныя разьмеры цэхавага і агульнага па прадпрыемству сабекошту прадукцыі (вырабу фабрыкатаў і паўфабрытаў):

д) каляндарныя т эрміны і парадак выкананьня прадпрыемствам работ, прадугледжаных прамфінплянамі і дадаткова прынятымі заказамі;

е) па згодзе з трэстам справаздачныя каштарысныя і калькуляцыйныя формы, парадак і тэрміны іх складаньня і падача ў адпаведныя органы.

20. Заключэньне ўсялякіх дагавораў і ўгод, выдача і дысконт вэксалёў, а таксама прыняцьце і выдача заказаў робіцца дырэктарам у межах, устаноўленых трэстам у палажэньні аб кіраваньні прадпрыемствам або ў выдадзенай яму даверанасьці.

21. Непрадугледжаныя ў адпаведным пляне работ якой-небудзь часткі прадпрыемства пытаньні новага будаўніцтва, капітальнага рамонту, даабсталяваньня і пераабсталяваньня, рацыяналізацыя вытворчасьці і працы падлягаюць абавязковаму зацьверджаньню дырэктара ва ўстаноўленым парадку.

22. Пытаньні па прадпрыемству, якія перавышаюць кампэтэнцыю дырэктара, вырашаюцца кіраўніком трэста з удзелам дырэктара.

23. Дырэктар павінен абавязкова падпісаць сам наступныя дакументы
а) дакументы каштарыснага і справаздачнага характару, прамфінпляны, каляндарныя разьмеркаваньні, балянсы, калькуляцыі, заказы і г. д.;
б) дакументы фінансавага характару: дагаворы, згоды, асыгноўкі, чэкі, вэксалі і г. д.;
в) загады, палажэньні, інструкцыі і правілы ўнутранага парадку;
г) дакументы знадворнай карэспандэнцыі прадпрыемства (якія аднесены да гэтай катэгорыі дырэктарам).

*Увага.* Дырэктар мае права перадаверыць падпісваньне названых дакумантаў у межах устаноўленых ім лімітаў сваім памочнікам і інш. працаўнікам.

24. Прадстаўніцтва і зносіны па справах прадпрыемства ва ўстаноўленым парадку з усімі органамі і асобамі робяцца дырэктарам або па яго даручэньню памочнікамі і інш. працаўнікамі прадпрыемства.

25. Дырэктар мае права:
а) распараджацца ўсімі фінансавымі і матарыяльнымі каштоўнасьцямі прадпрыемства ў межах вызначаных зацьверджаным прамфінплянам.

*Увага.* У патрэбных выпадках дырэктар мае права адступаць ад прадугледжаных прамфінплянам норм выдаткаваньня матарыяльных каштоўнасьцяй, ня выходзячы, аднак з зацьверджаных трэстам агульных межаў кожнага каштарысу ў паасобку і не парушаючы ўстаноўленай якасьці прадукцыі.

б) абскарджваць распараджэньні кіраўніка трэста, адначасова прадстаўляючы трэсту копію скаргі і не прыпыняючы выкананьня абскарджанага распараджэньня;
в) прыцягваць у неабходных выпадках да адказнасьці рабочых, служачых і інж.-тэхн. пэрсанал прадпрыемства і накладаць на іх спагнаньні, паводле зацьверджаных правіл унутранага парадку і палажэньня аб дысцыплінарнай адказнасьці:

26. Апроч адказнасьці, прадугледжанай асноўным палажэньнем для адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, дырэктар адказвае за не ўжываньне захадаў па ахове даручанай яму маёмасьці, за негаспадарліваe вядзеньне справы, за не захаваньне ўстаноўленых норм сабекошту прадукцыі, за перавышэньне не каштарысных выдаткаў і не захоўваньне плянавай і фінансавай дысцыпліны і выдаткаваньне крэдытаў не па простаму назначэньню.

*Увага.* Гэтае палажэньне пашыраецца на дырэктараў усіх паасобных вытворчых прадпрыемстваў трэсту, у тым ліку на аддзяленьні Лесбелу і Белдзяржбуду; дырэктары-ж і загадчыкі прадпрыемстваў, што ўваходзяць ў склад аддзяленьняў Лесбелу і дапаможных прадпрыемстваў трэсту, карыстаюцца правамі і нясуць абавязкі паводле гэтага палажэньня, але з падлічэньнем уваходу падпарадкаваных ім прадпрыемстваў у склад адазяленьня ці галоўнага прадпрыемства; палажэньні аб іх правох і абавязках павінны быць складзены трэстам у залежнасьці ад мясцовых умоў і гэтага палажэньня.

### III. Правы і абавязкі памочніка дырэктара па тэхнічнай частцы.

27. Да кампэтэнцыі памочніка дырэктара па тэхнічнай частцы належыць кіраваньне ўсёй тэхніка-вытворчай дзейнасьцю прадпрыемства, у тым ліку мэханічнымі будаўнічнымі часткамі прадпрыемства ў напрамку палепшаньня арганізацыі і рацыяналізацыі прадпрыемства, ужываньня ўдасканаленых мэтадаў, навуковых дасягненьняў, зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці прадукцыі.

28. Памочнік дырэктара па тэхнічнай частцы кіруе і наглядае за дзейнасьцю падлеглых яму частак прадпрыемства, у паасобку:

а) за распраўцоўкай вытворчых праграм, пэрспэктыўных плянаў, праэктаў, плянаў і каштарысаў новага будаўніцтва, калі яны распрацоўваюцца на прадпрыемствах, капітальнага рамонту, пераабсталяваньня і рацыяналізацыі вытворчасьці і работы падпарадкаваных яму аддзелаў і частак прадпрыемства;

б) за выкананьнем прамфінплянаў у іх вытворча-тэхнічнай частцы, вытворчых праграм, плянаў новага будаўніцтва і капітальнага рамонту і паасобных заказаў адносна да тэрміну выпуску, якасьці паўфабрыкатаў і вырабаў, норм выдаткаваньня матарыялаў, сырцу, энэргіі, рабсілы, накладных выдаткаў;

в) за складаньнем гадавых і інш. пэрыядычных плянаў задаваленьня, а таксама за здачай заказаў на абсталяваньне, узгадняючы заказы з адпаведнымі кіраўнікамі частак прадпрыёмства.

29. Памочнік дырэктара па тэхнічнай частцы вызначае тэхнічную, вытворчую і эканамічную мэтазгоднась прыймаемых прадпрыемствам заказаў і тэрміну іх выкананьня, прымаючы ўдзел ва ўстанаўленьні цэн на вырабы і паўфабрыкаты і ўстанаўляе неабходнасьць перадачы заказаў на розныя дэталі іншым прадпрыемствам.

*Увага.* Эканамічная мэтазгоднасьць прыймаемых заказаў устанаўляацца памочнікам дырэктара па тэхнічнай частцы па згодзе з дырэктарам і адпаведнымі кіраўнікамі частак прадпрыемства.

30. ТНБ або адпаведная частка прадпрыемства павінна ўзгадняць з памочнікам дырэктара па тэхнічнай частцы складзеныя ТНБ пляны, праграмы і чарговасьць работ па тэхнічнаму нармаваньню працы і па тэхніцы бясьпекі. Памочнік дырэктара павінен наглядаць за выкананьнем адпаведных работ і ўстаноўленых норм у частцы, якая належыць да вытворча-тэхнічнай і мэханічнай часткі прадпрыемства.

31. Памочнік дырэктара па тэхнічнай частцы сыстэматычна наглядае праз адпаведныя часткі прадпрыемства за захоўваньнем і належным становішчам тэхнічнага абсталяваньня і працы энэргэтычных і інш. установак прадпрыемства, за контролем па прыйманьню сырцу, матарыялаў, паўфабрыкатаў і гатовай прадукцыі.

32. Памочнік дырэктара па тэхнічнай частцы, апроч адказнасьці ўстаноўленай гэтым палажэньнем для асоб адм.-тэхн. пэрсаналу, нясе адказнасьць за правільнасьць праэктаў і каштарысаў, за рацыянальнае правядзеньне ўсіх працэсаў вытворчасьці і будаўніцтва, а таксама за якасьць прадукцыі і сабекошт яе.

*Увага.* У адпаведных выпадках у залежнасьці ад мясцовых умоў, памочнік дырэктара па вытворчай частцы выконвае непасрэдныя абавязкі галоўнага мэханіка і загадчыка вытворчасьці прадпрыемства.

### IУ. Правы і абавязкі памочніка дырэктара па працы.

33. Памочнік дырэктара па працы непасрэдна загадвае ТНБ прадпрыемства, або адпаведнай часткай яго і кіруе ўсімі работамі па арганізацыі працы і рацыянальнаму скарыстаньню рабсілы, у паасобку да яго абавязкаў адносяцца:

а) распрацоўка бягучых і пэрспэктыўных плянаў вытворчасьці адносна рабочага пытаньня і іх ажыцьцяўленьне;

б) падрыхтоўка матарыялаў да перазаключэньня каляктыўных дагавароў і тарыфных умоў, а таксама ажыцьцяўленьне іх;

в) пастаноўка сыстэматычнага вывучэньня становішча і руху зарплаты і вытворчасьці працы на прадпрыемстве і распрацоўка мерапры-

емстваў для устанаўленьня правільнага адпавяданьня зарплаты вытворчасьці працы;

г) нагляд за ўжываньнем захадаў да сваечасовай выплаты зарплаты рабочым і служачым;

д) вывучэньне становішча і руху налічэньняў на зарплату;

е) распрацоўка мерапрыемстваў па арганізацыі працы, правільнаму скарыстаньню рабсілы і ўплатненьню рабочага дню;

ж) арганізацыя сыстэматычнага нагляду за аховай працоўнага заканадаўства і інструктаваньня па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з ужываньнем працоўных законаў;

з) распрацоўка праэктаў правіл унутранага парадку і ажыцьцяўленьне зацьверджаных правіл;

і) вывучэньне зьявішч, зьвязаных з парушэньнем працоўнай дысцыпліны і распрацоўка мерапрыемстваў па барацьбе за падвышэньне працоўнай дысцыпліны;

к) інструктаваньне прадстаўнікоў прадпрыемства ў РКК;

л) вывучэньне працы вытворчых нарад і камісій у галіне працы і распрацоўка канкрэтных мерапрыемстаў па іх ужываньню і падліку вынікаў;

м) падлік карысных для вытворчасьці прапаноў, распрацоўка захадаў да скарыстаньня і заахвочваньня рабочага вынаходніцтва.

34. У частцы тэхнічнага нармаваньня памочнік дырэктара па працы узгадняе адпаведныя мерапрыемствы з памочнікам дырэктара па тэхнічнай частцы і кіруе:

а) распрацоўкай і ажыцьцяўленьнем правільных мэтадаў тэхнічнага нармаваньня працы;

б) сыстэматычным вывучэньнем вытворчага працэсу і абсталяваньня, інструмэнтарыя, матарыялаў і іх уплыву на апрацоўку і спосабы вытворчасьці для вызначэньня найкарысьнейшай працы і лімітнай вытворчасьці (паспартызацыя абсталяваньня);

в) сыстэматычным вывучэньнем элемэнтаў машыннай і ручной працы (працоўных працэсаў і абсталяваньня) і распрацоўкай мерапрыёмстваў для рацыянальнага скарыстаньня абсталяваньня і рабсілы;

г) устанаўленьнем тэхнічна-магчымых пры даным становішчы абсталяваньня норм вытворчасьці і працы і на падставе іх устанаўляе неабходныя штаты;

д) распрацоўкай і устанаўленьнем сыстэм аплаты працы па асобных відах працы, у паасобку, сыстэм прэміяваньня рабочых і адм.-тэхн. пэрсаналу і падлікам вынікаў гэтых сыстэм;

е) распрацоўкай сыстэм аплаты браку і прастою;

ж) устаноўленьнем кваліфікацыі работ і тарыфікацыі працаўнікоў, а таксама нагляд за іх ажыцьцяўленьнем;

з) вывучэньнем працы вытворчых нарад, камісій у галіне вытворча-тэхнічнай, распрацоўка канкрэтных захадаў для іх ужываньня і падлікам вынікаў гэтай працы.

35. У частцы аховы працы і палешаньня быту працуючых, памочнік дырэктара па працы кіруе:

а) вывучэньнем умоў працы ў вытворчасьці з боку іх небясьпекі і шкоднасьці і праэктаваньнем захадаў да іх адхіленьня і распрацоўкай мерапрыемстваў па палепшаньню умоў працы;

б) распрацоўкай інструкцыі па тэхніцы бясьпекі і пра належнае ўжываньне адпаведных прыладаў і інш.;

в) складаньнем каштарысаў па палепшаньню санітарна-тэхнічных умоў працы на прадпрыемстве і нагляд за фактычным выдаткаваньнем і ужываньнем асыгнаваньняў па гэтых каштарысах;

г) распрацоўкай матарыялаў да заключэньня трэстам плянавых згод з органамі НКПрацы па ахове працы;

д) арганізацыяй падліку і вывучэньнем няшчасных выпадкаў і распрацоўкай мерапрыемстаў да іх зьнішчэньня;

е) распрацоўкай плянаў забясьпечаньня рабочых і служачых прадпрыемстаў жыльлём і нагляд за правільным скарыстаньнем асыгнаваньняў на гэтую мэту;

ж) наглядам за ўжываньнем існуючых норм па пэцсвопратцы і па скарочанаму рабочаму дню і падрыхтоўкай матарыялаў аб неабходных і магчымых папраўках у гэтай галіне;

з) вывучэньнем становішча мэдычнага абслугоўваньня працоўных прадпрыемства і распрацоўкай неабходных мерапрыемстваў да яго палепшаньня:

і) наглядам за своечасовым ажыцьцяўленьнем захадаў па тэхніцы бясьпекі і фабрычна-заводзкай санітарыі;

к) систэматычным кантролем на месцы за спраўнасьцю прыладаў па тэхніцы бясьпекі і іх скарыстаньню.

36. Адносна забясьпечаньня прадпрыемства рабсілай памочнік дырэктара па працы кіруе:

а) выяўленьнем бягучай і пэрспэктыўнай патрэбы ў папаўненьні прадпрыемства рабсілай, тэхнічным, гаспадарчым і адм. пэрсаналам;

б) агульнай пастаноўкай школ ФЗУ і пытаньнямі вучнёўства, а таксама арганізацыяй курсаў па падвышэньню кваліфікацыі і спэцыяльнай падрыхтоўкай рабочых і тэхнічнага пэрсаналу і пытаньнямі, зьвязанымі з броняй падлеткаў;

в) арганізацыяй вярбоўкі масавай рабсілы паводле існуючых законаў і каляктыўнага дагавору.

37. Памочнік дырэктара па працы сам або праз упаўнаважаных ім працаўнікоў прымае ўдзел у абмеркаваньні і разглядзе пытаньняў, зьвязанных з рэгуляваньнем працы ў трэсьце, прафсаюзных і інш. арганізацыях.

38. Усе пляны, праграмы і чарговасьць работы ТНБ і мэтады тэхнічнага нармаваньня, а таксама праэкты адпаведных норм павінны ўзгадняцца з памочнікам па тэхнічнай частцы і загадчыкамі адпаведных аддзелаў і цэхаў.

39. ТНБ або адпаведная частка прадпрыемства дзейнічае на падставе асобнага палажэньня, зацьверджанага ВСНГ БССР.

### V. Разьмеркаваньне частак прадпрыемства паміж кіруючым складам вытворчага прадпрыемства.

40. Кіраваньне асобнымі часткамі і аддзеламі прадпрыемства, апроч паказаных у папярэдніх п. п., праводзіцца дырэктарам прадпрыемства і яго памочнікамі па згодзе з імі, пры чым асобныя часткі прадпрыемства дзейнічаюць на падставе адпаведных палажэньняў, абвешчаных ВСНГ БССР (напрыклад, бюро рацыяналізацыі, статыстычная частка, камэрцыйны аддзел, вытворча-плянавая частка і г. д.).

### VI. Правы і абавязкі галоўнага мэханіка.

41. Апроч паказаных агульных палажэньняў для ўсяго адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу галоўны мэханік мае наступныя функцыі:

а) нагляд за спраўным становішчам, своечасовым рамонтам, устаноўкай і рацыянальным скарыстаньнем мэханічнага і сілавога абсталяваньня: кацельных, электрычных і інш. установак, вода-і-электра забясьпячэньнямі, трансмісіямі, вэнтыляцыяй і інш. абсталяваньнем, абста-

ляваньнем для сувязі, выяўленьнем прычын псаваньня абсталяваньня і распрацоўка мерапрыемстваў да зьнішчэньня недахопаў на будучы час.

*Увага.* Калі рацыянальнае скарыстаньне абсталяваньня непасрэдна зьвязана з кіраваньнем тэхнолёгічнымі працэсамі, то мэханік павінен наглядаць за ашчаднымі адносінамі і ўжываньнем абсталяваньня пры скарыстаньні яго, таксама пры наяўнасьці асобы для нагляду за супроцьпажарнымі прыладамі і прыняцьце супроцьпажарных захадаў (галоўны) мэханік толькі дае гэтай асобе неабходную кансультацыю і рабіць экспэртызу ў патрэбных выпадках.

б) складаньне плянаў па рамонту і аднаўленьню абсталяваньня мэханічных установак, капітальнага і новага будаўніцтва ў мэханічнай частцы і нагляд за іх выкананьнем;

в) кіраваньне працай па мэханічнай праверцы абсталяваньня, эскізаў, плянаў і чарцяжоў, спрабаваньне парасілавых і цеплавых установак і распрацоўка адпаведных мерапрыемстваў для адхіленьня зьявіўшыхся недахопаў;

г) нагляд за выкананьнем зацьверджаных плянаў па рамонту і аднаўленьню абсталяваньня, а таксама будаўніцтва ў мэханічнай частцы;

д) прыйманьне абсталяваньня і выбар новага абсталяваньня;

е) нагляд за рацыянальным скарыстаньнем пара і электра-энергіі і за экономным і мэтазгодным скарыстаньнем сілавой энергіі, апалу, рэмняў і змазачных матарыялаў;

ж) удзел у распрацоўцы інструкцый па скарыстаньню і ўжываньню абсталяваньня і распрацоўцы інвэнтарызацыі ўсіх сродкаў абсталяваньня.

## VII. Правы і абавязкі загадчыка вытворчасьці.

42. Загадчык вытворчасьці (загадчык вытворча-плянавай часткі прадпрыемства) кіруе працай агульнага пляваньня вытворчасьці і наглядае за своечасовым выкананьнем вытворчага пляну і заказаў, у паасобку да яго кампэтэнцыі належыць:

а) складаньне на падставе заданьняў трэстаў прамфінплянаў, гадовых і квартальных вытворчых праграм прадпрыемства, праэктаў нарадаў-заказаў прадпрыемству для ўзгадненьня з трэстам і нагляд за выкананьнем зацьверджанага прамфінпляну і нарада-заказа;

б) пад наглядам памочніка па тэхнічнай частцы дача заданьняў для асобных цэхаў, вызначэньне тэрміну іх выкананьня, разьмераў цэхавага і каштарыснага сабекошту вырабаў і паўфабрыкатаў, выдача цэхам адпаведных заказаў, ужываньне захадаў да іх выкананьня і нагляд за іх дакладным і своечасовым выкананьнем;

в) распрацоўка і нагляд за выкананьнем пэрспэктыўных плянаў дзейнасьці прадпрыемства, плянаў аднаўленьня асноўнага капіталу, праграм загатоўкі абсталяваньня, сырцу, паўфабрыкатаў і інш.;

г) складаньне папярэдніх калькуляцый вытворчасьці, аналіз справаздачнай калькуляцыі і вынікаючых з аналізу прапаноў;

д) аб'яднаньне вылічэньня сыстэматызацыі даных аб вытворчых выдатках і сабекошту прадукцыі, аналіз гэтых даных, распрацоўка па ўзгадненьню з адпаведнымі часткамі прадрыемства неабходных мерапрыемстваў, якія вынікаюць з аналізу паказаных даных.

### VIII. Правы і абавязкі загадчыка цэху.

43. Загадчык цэху кіруе ўсей адм.-тэхн. і гаспадарчай дзейнасьцю цэха, у паасобку да яго абавязкаў адносяцца:

а) выкананьне інструкцый, праграм і заданьняў вышэйшых за яго органаў прадпрыемства;

б) арганізацыя вытворчых працэсаў, разьмеркаваньне работы, расплянаваньне прыладаў вытворчасьці, устанаўленьне спосабаў вырабу або апрацоўкі і ўстанаўленьне пасьлядовасьці апэрацый;

в) кіраваньне вытворчасьцю ў напрамку павялічэньня выпуску прадукцыі, палепшаньня яе якасьці і зьніжэньня сабекошту.

г) падрыхтоўка данных для ўстанаўленьня вытворчай праграмы для цэха, тэрмінаў выкананьня, разьмераў цэхавага і каштарыснага сабекошту, заявак і каштарысаў па задаваленьню сырцом, паўфабрыкатамі, рабсілай, інструмэнтамі і г. д.;

д) нагляд за бесперапынным рухам вытворчасьці і правільнай загрузкай абсталяваньня, варштатаў і рабочых, за скарачэньнем прастояў і правільным іх падлікам, за ахоўваньнем і належным становішчам тэхнічнага абсталяваньня і інш. маемасьці, якая знаходзіцца ў яго веданьні;

е) нагляд за захаваньнем устаноўленых норм запасаў сырцу, паўфабрыкатаў, матарыялаў і інш., а таксама за становішчам складаў прадпрыемства і наяўнасьці ў іх неабходных запасаў, за экономным і мэтазгодным выдаткаваньнем сырцу, матарыялаў, энергіі, апалу і рабсілы, скарачэньнем проценту браку і захоўваньнем адпаведных норм цэхавых выдаткаў і крэдытаў па асобных заказах;

ж) нагляд за выкананьнем правіл вытворча-працоўнай дысцыпліны паводле правіл ўнутранага парадку;

з) дача ў межах зацьверджаных праграм і каштарысаў заказаў і патрабаваньняў інш. часткам прадпрыемства для правядзеньня адпаведнага рамонту, выкананьня дапаможных работ, папаўненьня неабходных запасаў і г. д. і нагляд за сваечасовым выкананьнем гэтых патрабаваньняў і заказаў;

і) прыйманьне дастаўленых матарыялаў з правам адмовы ад прыйманьня нягодных да пісьмовага распараджэньня вышэйшай за яго асобы;

к) дакладнае вывучэньне папярэдняй і пасьлядовай калькуляцыі цэхавага сабекошту прадукцыі, аналіз яго і ўжываньне неабходных захадаў да адхіленьня выяўленых недахопаў;

л) нагляд за правільным скарыстаньнем агароджаў і інш. забясьпечваючых сродкаў і сваечасовым іх рамонтам; нагляд за выкананьнем тэхнікі бясьпекі і аховы працы;

м) нагляд за азнаямленьнем рабочых з абсталяваньнем, устаноўленымі агароджамі і прыстасаваньнямі;

н) рацыяналізацыя тэхналёгічных працэсаў у сваім цэху і арганізацыя ва ўстаноўленым парадку неабходных для гэтага спроб;

о) удзел у распрацоўцы прамфінпланаў і ўстанаўленьне розных тэхнічных вытворчых паказчыкаў (разьмераў прадукцыі, выдаткаваньня сырцу і г. д.);

п) удзел у распрацоўцы і ўстанаўленьні ТНБ норм выпрацоўкі і зьдзельных расцэнак.

44. На абавязку загадчыка цэху ляжыць дапамога працы вытворчых нарад і ажыцьцяўленьне прынятых імі прапаноў.

### IX. Правы і абавязкі старшага (галоўнага) бухгальтара.

45. Старшы (галоўны) бухгальтар прадпрыемства кіруе ўсім рахункаводзтвам прадпрыемства, яго цэхаў і аддзелаў і дапаможных прадпрыемстваў на падставе інструкцыі трэсту і кантралюе працу бухгальтэрыі аддзелаў і частак, у паасобку да яго кампэтэнцыі адносіцца:

а) падлік вытворчасьці па цэхавай і агульнай калькуляцыі сабекошту прадукцыі і непасрэдны нагляд за дакладнасьцю і правільнасьцю вылічэньня сабекошту ва ўсіх стадыях вытворчасьці;

б) удзел у складаньні фінансавых плянаў, каштарысаў і касавых распісаньняў, падлік рабсілы, прадукцыі сырцу, матарыялаў і інш.

в) своечасовае складаньне бухгальтарскіх кніг, балянсаў і інш. бухгальтарскіх дакумантаў і прадстаўленьне іх у інш. інстанцыі;

г) сьцьвярджэньне сваім подпісам усіх дакумантаў матарыяльна-маемаснага, грашовага і крэдытнага характару, якія зьяўляюцца падставай для выдачы і прыйманьня грошай, а таксама справаздач і балянсаў;

д) узгадненьне ўсіх дагавароў, угод, касавых і крэдытных апэрацый і разрахункаў з трэцімі асобамі па прадпрыемству;

е) нагляд за вядзеньнем архіву рахунковых дакумантаў і за аховай гэтых дакумэнтаў;

ж) удзел у працы бухгальтэрыі трэсту па выпрацоўцы тыпавых форм і парадку праходжаньня дакумантаў і інструкцый па фінансава-рахунковай справе, тэрмінаў падачы справаздачнасьці і распрацоўцы арганізацыйных палажэньняў, якія тычацца фінансавых і рахунковых апэрацый прадпрыемства.

46. Паказаньне галоўнага бухгальтара трэсту па пытаньнях падліку і справаздачнасьці абавязковы для старшага (галоўнага) бухгальтара прадпрыемства.

47. Апроч паказаных у гэтым палажэньні праў і абавязкаў на старшым (галоўным) бухгальтары прадпрыемства ляжаць абавязкі і ён карыстаецца правамі, паказанымі ў пастанове ЦВК і СНК СССР аб правох і абавязках галоўных бухгальтароў устаноў і прадпрыемстваў (З. З. СССР за 1928 г. № 49, арт. 441).

### X. Правы і абавязкі іншага адм.-тэхнічнага і гаспадарчага пэрсаналу прадпрыемства.

48. Іншыя асобы адм. тэхн. і гаспадарчага складу прадпрыемства (майстры, дзесятнікі, брыгадыры, інструктары, мэханікі і інш.) апроч праў даных ім агульнымі палажэньнямі (падз. 1-ы), выконваюць функцыі, ускладзеныя на іх адпаведнымі палажэньнямі, распрацаванымі трэстамі на падставе гэтага палажэньня і ў залежнасьці ад мясцовых умоў і роду вытворчасьці.

---

## 12. Загад па Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра скасаваньне абежніку свайго за 9/IV—1926 г. № 4 „Аб парадку ліквідацыі прамыслова-капэрацыйных арцелей (таварыстваў)“ (Бюл. СНК БССР 1926 г. № 14).**

З прычыны выданьня палажэньня аб няздольнасьці каперацыйных арганізацый (З. З. СССР за 1929 г. № 11, арт. 101) і палажэньня пра парадак спыненьня каперацыйных організацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні (З. З. СССР за 1927 г. № 37, арт. 372) абежнік ВСНГ БССР за 9/IV—1926 г. № 4 (Бюл. СНК БССР. за 1926 г. № 14 (23)—скасаваць, як страціўшы сілу.

Нам Старшыні ВСНГ БССР *Баль.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

26 красавіка 1929 г.
№ 155

## 13. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра выкананьне мерапрыемстваў, што прапануюцца вытворчымі нарадамі на прадпрыемствах.**

У сучасны пэрыад наглядаецца праяўленьне асаблівай ініцыятывы з боку рабочых і асобных адзінак інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу для дапамогі савецкай уладзе хутчэй правесьці намечаныя ёю ў жыцьцё мерапрыемствы па сыстэматычнаму палепшаньню і рацыяналізацыі нашай прамысловасьці на шляху сацыялістычнага будаўніцтва, але на гэтым шляху яшчэ ёсьць шмат перашкод, якая зараз-жа неабходна зьнішчыць.

1. Ёсьць выпадкі няўважлівых адносін, як з боку кіраўнікоў прадпрыемстваў, так і інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу, частка якога недаацэньвае ролю і значэньне вытворчых нарад у справе рацыяналізацыі вытворчасьці і што інжынэрна-тэхнічныя сэкцыі, як прафсаюзнае зьвяно, недастаткова зьвярталі ўвагу вытворчым нарадам і скарыстаньню прапаноў гэтых нарад для нашай прамысловасьці.

2. Абсьледваньне цэлага шэрагу прадпрыемстваў вызначанымі камісіямі ВСНГ БССР паказала, што абежнікі Прэзыдыуму ВСНГ БССР за 7/I і за 6/XII 1926 г. за №№ 3445 і 27, якія і да гэтага часу не страцілі свае сілы недастаткова праводзяцца ў жыцьцё кіраўнікамі і тэхнічным пэрсаналам нашых прадпрыемстваў; у гэтых абежніках гаварылася: „Вытворчыя нарады зьяўляюцца адным з органаў, садзейнічаючых палепшаньню працы па гаспадарчаму будаўніцтву, шляхам скарыстаньня вытворчага вопыту рабочай масы“. „Больш увагі вытворчым нарадам з боку адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу. Максымальнасьць іх актыўнасьці забясьпечыць правільныя рашэньні вытворчых нарад, што дасьць магчымасьць хутка штурхнуць уперад справу сацыялістычнага будаўніцтва прамысловасьці“.

А таму прапануецца зьвярнуць асаблівую ўвагу на выкананьне мерапрыемстваў паказаных памянёнымі абмежнікамі і правядзеньне іх у жыцьцё.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Адказны па групе рацыяналізацыі *Варашылаў.*

25 красавіка 1929 г.
№ 34

---

## 14. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра ўзмацненьне працы пажарных арганізацый на прадпрыемствах.**

*Усім трэстам і гаспадарчым адзінкам ВСНГ БССР.*

За апошні час сталі частымі выпадкі загараньняў на прадпрыемствах ВСНГ БССР, пацягнуўшыя за сабою ў некаторых мясцох значныя пашкоджаньні, выклікаючыя перабоі ў вытворчасьці.

Лічачы, што ў большасьці выпадкаў пажары з'яўляюцца вынікам недастатковага нагляду з боку адміністрацыі і паслабленьня дысцыпліны ў нашых пажарных арганізацыях на мясцох, ВСНГ БССР прапануе:

1. Зьвярнуць увагу на больш дакладнае выконваньне правілаў устаноўленага ўнутранага парадку па пажарной ахове на прадпрыемствах, а дзе іх (правілаў) няма, безадкладна іх выпрацаваць і тэрмінова ўвесьці ў жыцьцё.

2. Узмацніць нагляд за сьціслым выкананьнем нясеньня службы як пажарнымі дружыньнікамі, так і прамміліцыяй і за іх баяздольнасьцю.

Аб выніках нядбайнага нясеньня службы прамміліцыяй прысылаць зьвесткі, з паказаньнем прозьвішч.

3. Выпрацаваць асобныя правілы аб пропуску на тэрыторыю заводаў у дзень і ноччу, каб унікнуць праніканьня на заводы злашкоднікаў.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР *У. Стракоўскі.*

Адказны па паж. страх. групе *І. Пупкевіч.*

11 красавіка 1929 г.
№ 56

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра парадак правядзеньня загатоўкі заводзкай шэрсьці ў 1928-29 г. і разьмеркаваньня яе па спажыўцох.

1. Выходзячы з колькасьці мяркуемай перапрацоўкі ў БССР скурсыравіны на працягу 1928-29 г. у 361.000 штук буйных і 1.038.000 шт. дробных і арыентыровачнага адыходу ад іх шэрсьці, (табл. № 1) зацьвярджаецца наступны загатоўчы плян па заводзкай шэрсьці.

**А. На скурзаводах Белскуртрэсту.**

| | |
|---|---|
| кароўяй і конскай | 345 тон. |
| авечай | 71 „ |
| казінай | 20 „ |
| сабачай | 60 „ |
| Разам | 496 тон. |

**Б. На прадпрыемствах БСІКА, Камтрэстаў і П-каляктываў (кароўяй і конскай)— 33 тоны.**

**В. Па арцелях Белсампрамсаюзу**

| | |
|---|---|
| кароўяй і конскай | 81 тон. |
| авечай | 7 „ |
| Разам | 88 тон. |

2. Выкананьне загатоўчага пляну ўскласьці на Бел. Кантору Скурсындыкату ў колькасьці:

| | |
|---|---|
| кароўяй і конскай | 378 тон. |
| казінай | 20 „ |
| авечай | 71 „ |
| сабачай | 60 „ |
| Разам | 529 тон, ці 85,7% |

і Белсампрамсаюз у колькасьці:

| | |
|---|---|
| кароўяй і конскай | 81 тон. |
| авечай | 7 „ |
| Разам | 88 тон, ці 14,3%. |

3. Белсампрамсаюз вядзе загатоўку шэрсьці толькі ў сваіх арцелях, а Скурсындыкат на прадпрыемствах Белскуртрэсту, БСІКА, Камтрэстаў, і п/каляктываў (табл. № 2).

4. Устанаўляецца наступнае пакваргальнае разьмеркаваньне загатоўчага пляну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I квартал | — 9%, | або | 55,53 тоны |
| II „ | —15% | „ | 92,55 „ |
| III „ | —40% | „ | 246,80 „ |
| IV „ | —36% | „ | 222,12 „ |
| Разам | | | 617,00 тон. |

5. Зацьвярджаецца разьмеркаваньне загатаўляемай у БССР і вызначанай да ўвозу (400 тон.) шэрсьці па спажываючых арганізацыях, вызначанае ў далучанай табліцы № 3.

| | |
|---|---|
| Менскаму п/каляктыву лямачнікаў . . . | 805 тон. |
| Віцебскаму прац. калякт. „ . . . | 140 „ |
| Арцелям Белсампрамсаюзу . . . . . . | 121 „ |
| Разам . . . . . . . . . . . | 1066 тон. |

6. Забясьпечаньне Менскага і Віцебскага працкаляктываў, паводле вызначанага п. 5 пляну, ускладаецца на Бел. К-ру Скурсындыкату, а арцеляў БСПС на Белсампрамсаюз.

7. Абавязаць Бел. К-ру Скурсындыкату і БСПС выдаткоўваць шэрсьць толькі, паводле зацьверджанага Н. К. Гандлю пляну.

8. Абавязаць Белскуртрэст, БСІКА, Талачынскі П/каляктыў і Барысаўскі Камбінат здаваць увесь адход шэрсьці толькі Бел. К-ры Скурсындыкату.

9. Загатоўчая цана на конскую і кароўю шэрсьць несартаваную франка-завод прадаўца ўстанаўляецца:

| | |
|---|---|
| па заводах Белскуртрэсту . . . . . | 453 руб. тона |
| па астатніх прадпрыёмствах . . . . | 362 р. 40 к. т. |

*Увага.* Шэрсьць ад Магілеўскай арцелі Белсампрамсаюзу, маючай мэханічную мойку, прымаецца, як шэрсьць заводаў Белскуртрэсту.

10. Загатоўчая цана на сухую, нармальнай моцнасьці, рассартаваную па колеру і без староньніх прымешак авечую шэрсьць з прэснасухіх аўчын—ня мытую і з мокра-салёных аўчын—мытую—устанаўляецца 1 р. 52 к. за кілёграм.

11. Цэны ўводзяцца з 1 кастрычніка 1928 г. і пашыраюцца на ўсе заключаныя раней дагаворы.

12. Гранічная надбаўка Скурсындыкату на авечую шэрсьць устанаўляецца ў 14,25% і па іншых шэрсьцях—1%.

13. Абавязаць Бел. К-ру Скурсындыкату і Белсампрамсаюз падаваць у Н. К. Гандлю справаздачы аб ходзе загатовак заводзкай шэрсьці па формах і ў тэрміны, зацьверджаныя НК РСІ БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Н. К. Гандлю БССР *Паплаўскі.*

26 красавіка 1929 г.
№ 20.

*Дадатак 1-шы.*

Табліца № 1.

Выхад шэрсьці

| Назва прадпрыемстваў | Перапр. скурсыр. 28-29 г. у т. шт. | | | | | Выхад шэрсьці (у тонах) | | | | Разам усіх відаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Буйн. | Дроб. | Аўч. | Каз. | Саб. | Кар. і кон. | Авечай | Казінай | Сабач. | |
| 1. Зав. Скуртрэста | 253 | 560 | 150 | 20 | 200 | 345 | 71 | 20 | 60 | 496 |
| 2. Арц. Белсампр. | 75 | 70 | 30 | — | — | 81 | 7 | — | — | 88 |
| 3. П/Калект. | 20 | — | — | — | — | 20 | — | — | — | 20 |
| 4. Барыс. Камб. | 10 | — | — | — | — | 10 | — | — | — | 10 |
| 5. БСІКА | 3 | — | — | — | — | 3 | — | — | — | 3 |
| Разам | 361 | 630 | 188 | 20 | 200 | 459 | 78 | 20 | 60 | 617 |

*Увага.* 1. Нармальны разьлік выхаду шэрсьці ўзяты па буйнаму апойку, вырастку і паўкожніку 5% ад вагі скуры. Па аўчыне 450 гр. з штукі, па казінай скуры адзін кілёграм з штукі, па сабачай скуры 300 гр. з штукі.

2. Па прадпрыемствах Белсампрамсамсаюзу выхад з аўчыны ўзяты ў два разы менш нармальнага.

Інспэктар Н. К. Гандлю БССР *К. Верамейчык.*

*Дадатак 2-гі.*

Табліца №2.

Загатоўчы плян заводзкай шэрсьці (у тонах).

| | Кароўя і конская | | | | | | Авечая | | | Казіная | Сабачая | Разам | % адн. да заг. пл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | З зав. Скуртр. | З зав. п.-кал. | Ад арц. БСІКА | Ад Бар. камб. | Ад арц. БСПС | Разам | З склад Скурсын. | Ад арц. БСПС | Разам | З завод Скуртрэст | З завод. Скуртрэсту | | |
| 1. Скурсындыкат | 345 | 20 | 3 | 10 | — | 378 | 71 | — | 71 | 20 | 60 | 529 | 85,7 |
| 2. Белсампрамсаюз | — | — | — | — | 81 | 81 | — | 7 | 7 | — | — | 88 | 14,3 |
| Разам | 345 | 20 | 3 | 10 | 81 | 459 | 71 | 7 | 78 | 20 | 60 | 617 | 100 |

Інспэктар НКГандлю БССР *К. Верамейчык.*

*Дадатак 3-ці.*

Табліца № 3.

Разьмеркаваньне шэрсьці па спажыўцох (у тонах).

| | Кар. і конская | | | Авечая | | Казіная | | Сабач. | Разам | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Скур-сынд. | БСПр. саюз | Завоз | Скур-сынд. | БСПр. саюз | Скур-сынд. | Завоз | Скур-сынд. | | |
| 1. Менск. п.-кал. | 268 | — | 400 | 18 | — | 20 | 49 | 50 | 805 | |
| 2. Віцебскі „ | 110 | — | — | 20 | — | — | — | 10 | 140 | |
| 3. Арцелі Белсампрамсаюзу . | — | 81 | — | 33 | 7 | — | — | — | 121 | |
| Разам . . | 378 | 81 | 400 | 71 | 7 | 20 | 49 | 60 | 1066 | |

Інспэктар НКГандлю БССР *К. Верамейчык.*

## 16. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра арганізацыю ў БССР загатовак воўны ад жывой стрыжкі на сэзон 1929 г.

На падставе п. 3 літ. „в“ арт. 3 „Палажэньня аб НКГандлю БССР“ (З. З. БССР 1928 г., № 34, арт. 319) і пастановы НКГандлю СССР за 11-II 1929 г. „Аб арганізацыі шэрстносырцовага рынку на сэзон 1929 г.“ НКГандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць загатоўчы плян дзяржаўных і каперацыйных загатовак авечай шэрсьці жывой стрыжкі ў колькасьці 1600 цэнтн.

2. Зацьвердзіць ніжэйзьмешчанае разьмеркаваньне загатоўчага пляну па відах шэрсьці і па акругах:

| Назва акругі | Вясеньняй стрыжкі | Асеньняй стрыжкі | Паярка | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| | (У цэнтнэрах) | | | |
| Бабруйская . . . | 120 | 90 | 30 | 240 |
| Віцебская . . . | 64 | 48 | 16 | 128 |
| Аршанская . . . | 80 | 60 | 20 | 160 |
| Гомельская . . . | 160 | 120 | 40 | 320 |
| Магілеўская . . . | 96 | 72 | 24 | 192 |
| Мазырская . . . | 80 | 60 | 20 | 160 |
| Менская . . . | 160 | 120 | 40 | 320 |
| Полацкая . . . | 40 | 30 | 10 | 80 |
| Усяго . . . | 800 | 600 | 200 | 1600 |

3. Асноўнымі загатоўшчыкамі зацьвердзіць Белдзяржгандаль і Белкаапсаюз з наступным разьмеркаваньнем паміж імі загатоўчага пляну

| Назва арганізацыі | Вясен. стрыжкі | Асеньняй стрыжкі | Паярка | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| | (У цэнтнэрах): | | | |
| Белдзяржгандаль . . | 400 | 300 | 100 | 800 |
| Белкаапсаюз . . . | 400 | 300 | 100 | 800 |
| Усяго . . . | 800 | 600 | 200 | 1600 |

4. Устанавіць наступныя тэрміны выкананьня пляну загатовак:

| Від шэрсьці | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастр. | Лістап. | Сьнежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | (У процантах): | | | | | | | |
| Вясеньняй . . . . | 10 | 40 | 40 | 10 | — | — | — | — |
| Асеньняй . . . . | — | — | — | 30 | 30 | 30 | 5 | 5 |
| Паярка. . . . . | — | — | — | 30 | 30 | 30 | 5 | 5 |

5. Разьмеркаваньне пляну па загатоўчых арганізацыях зьяўляецца абавязковым як для арганізацый у цэлым, так і для адпаведных загатоўчых пунктаў гэтых арганізацый.

6. Сыстэма с.-г. каапярацыі ад загатовак шэрсьці не вызваляецца, загатаўляемая с.-г. капярацыяй шэрсьць здаецца аднаму з асноўных загатоўшчыкаў (Белдзяржгандлю ці Белкаапсаюзу).

7. Загатоўка воўны праводзіцца асноўнымі загатоўшчыкамі праз свае стацыянарныя загатоўчыя пункты (с.-г. крэдытныя і спажывецкія таварыствы), а таксама праз раз'ездную агэнтуру і прыватных зборшчыкаў, дзейнічаючых па дагавору з адным з асноўных загатоўшчыкаў.

8. Абавязаць Белдзяржгандаль і Белкаапсаюз максымальна ахапіць авечую шэрсьць у саўгасах і калгасах. Прыём воўны можа праводзіцца, па ўзгадненьні старон, як у саўгасах, калгасах, так і на бліжэйшых загатоўчых пунктах.

9. Загатоўчую цану для усіх раёнаў франка—загатоўчы пункт на шэрсьць нармальнай якасьці і сухасьці, ня прэлую, не гарэлую, не паедзеную мольлю, бяз клюнкера, не засьмечаную штучна, з неабходнай вытрускай рун ад штучнай засьмечанасьці—зацьвердзіць наступную:

вясеньняй стрыжкі перагонная . 2 р. 00 к. клгр.
" " брудная . . . 1 " 50 " "
асеньняй " паярак . . . 2 " 50 " "

*Увага:* Пры наяўнасьці паказаных вышэй недахопаў і засьмечанасьці—з загатоўчай цаны робіцца адпаведная скідка ў залежнасьці ад якасьці воўны.

10. Зацьвердзіць прыкладаемую да гэтага інструкцыю аб парадку прыёму воўны загатоўшчыкамі.

11. З прычыны слабай кваліфікацыі загатоўчага апарату прапанаваць Белдзяржгандлю і Белкапсаюзу разам з захадамі па ўмацаваньні апарату наладзіць сыстэматычнае кіраўніцтва і інструктаж нізавых загатоўшчыкаў, скарыстыўшы для гэтага апарат Акц. Т-ва „Шэрсьць“.

12. Фінансаваньне загатовак воўны праводзіцца Дзяржбанкам БССР у адпаведнасьці з зацьверджаным плянам.

13. За скарыстаньне не па прызначэньню сродкаў, адпушчаемых на загатоўку воўны, вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці па артыкулу 197 „а“ Крым. Кодэксу БССР, а загатоўчыя арганізацыі плацяць Дзяржбанку няўстойку ў разьмеры ня менш 20 проц. ад выдаткаваных не па прызначэньню сродкаў.

14. Загатаўляемая па БССР воўна загатоўчымі арганізацыямі здаецца выключна сампрамкапярацыі і Акц. Т-ву „Шэрсьць“ на задавальненьне дзяржаўнай прамысловасьці па здатачных цэнах, устаноўленых НК Гандлю СССР.

15. Для ажыцьцяўленьня п. 14 гэтай пастановы Белдзяржгандаль і Белкапсаюз абавязаны ў месячны тэрмін заключыць з Белсампрамсаюзам і Акц. Т-вам „Шэрсьць“ дагаворы на здачу апошнім воўны ў колькасьці, адпавядаючай загатоўчаму пляну.

16. Прыватныя скупшчыкі шэрсьці абавязаны рэгістравацца ў органах НК Гандлю на мясцох, пры чым скупку воўны яны могуць праводзіць толькі ў раёнах, паказаных ім акруговымі інспэктарамі гандлю, па ўстаноўленых цэнах і ў тэрміны, зацьверджаныя НК РСІ БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НК Гандлю БССР *Паплаўскі.*

30 красавіка 1929 г.
№ 23.

---

*Дадатак.*

## Інструкцыя аб прыйманьні воўны-сырцу загатоўшчыкамі.

### I. Вызначэньне відаў воўны.

1. Руская воўна, што загатаўляецца на тэрыторыі БССР, зьўляецца шэрсьцю чыстых заводзкіх, доўгахвостых, худахвостых авечак і часткова (у паўночных раёнах БССР) іх мэцісаў з раманаўскімі авечкамі.

Па часу стрыжкі ўся воўна дзеліцца на вясеньнюю і асеньнюю, прычым асобна выдзяляецца воўна, што стрыжэцца з ягнят, так званая паярак.

Вясеньняя руская воўна дзеліцца на два віды: а) воўна рунная, якая стрыжэцца з авечкі цэлым руном, і б) клочча (дробныя клакі воўны ад стрыжкі авечак).

Апроч таго, вясеньняя воўна ідзе на рынак брудная (г. зн. бяз усякай ачысткі пасьля стрыжкі авец) або да стрыжкі мыецца на авечках і пасьля стрыжкі ідзе на рынак з назваю перагоннай воўны (з прычыны таго, што гэтая воўна атрымоўваецца пры дапамозе перагону авечак праз вадазборы).

### II. Ацэнка воўны.

2. Уся руская воўна, што ідзе на рынак, пры прыманьні павінна ацэньвацца паводле ўстаноўленых Н. К. Гандю БССР цэн для данага раёну.

Загатоўчыя цэны ўстанаўляюцца на воўну нармальнае якасьці, ня прэлую, не гарэлую, не паедзеную мольлю, не засьмечаную штучнымі прымешкамі і бяз клюнера (авеччага калу).

### III. Якасьць воўны.

3. Воўна, якая не адпаведае якасным нормам, павінна прымацца з адпаведнаю скідкаю па згодзе старон.

4. Воўна сырая, падмочаная дажджом альбо штучна падвільгочаная перад трыманьнем павінна быць высушана да нармальнага стану, а калі яе немагчыма высушыць,—робіцца адпаведная скідка.

5. Воўна, забруджаная зямлёй або пяском, звыш нармальнае кольказьці, перад прыманьнем ачышчаецца і вытрахваецца да нармальнага стану, а калі яе немагчыма ачысьціць, прымаецца з адпаведнаю скідкаю.

6. Буйны клун (кускі ссохшага калу) павінен быць выкінуты. Воўна, замазаная калам, калі яе немагчыма ачысьціць, а таксама, калі на пунктах пershaпачатковай апрацоўкі яе немагчыма прамыць, прымаецца з адпаведнаю скідкаю з цаны.

7. Воўна, засьмечаная рапэем або іншымі расьліннымі прымешкамі, прымаецца са скідкаю адпаведна ступені засьмечанасьці.

8. Воўна прымаецца разгорнутымі рунамі. Колькасьць клочча ў час прыманьня не павінна перавышаць 10%.

### IV. Перагонная воўна.

9. Прымаючы перагонную воўну, трэба добра праглядваць яе і прымаць, як перагонную, толькі сапраўды прамытую воўну, а не адабраную з бруднай—менш зашмальцаваную воўну.

10. Брудную воўну з перагоннай трэба адкладваць у брудную воўну. Кепска прамытая перагонная воўна, а таксама воўна з пяском прымаецца за паўперагонную з адпаведнаю скідкаю.

Пасьля прыняцьця паўперагонная воўна ідзе на далейшую прамыўку. Чыстая паўперагонная воўна не засьмечаная пяском, старанна вытрэсваецца, каб ачысьціць ад пяску.

Калі пры прыняцьці рассартаваць перагонную воўну на брудную і на паўперагонную немагчыма, то робіцца агульная скідка з цаны.

Уся прынятая воўна павінна строга запакоўвацца па асобных відах, г. зн. вясеньняя, брудная, перагонная, клочча, асеньняя і паярок. Апошнія два віды, апроч таго, пры здачы яе прамысловасьці, патрэбна рассартаваць па асноўных колерах (белая, чорная і інш.).

---

## 17. Выпіс з журналу пленарнага пасяджэньня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах пры Народным Камісарыяце Земляробства БССР за 2 красавіка 1929 г. № 42.

Слухалі: 3. Справу па іску Насты Гарбачовай да Гаўрылы Гарбачова аб выплатах у парадку арт. 84 Зям. Код. і ўтрыманьні дзіцяці ў зьвязку з хадайніцтвам Віцебскай Акруговай Зямельнай Камісіі аб растлумачэньні.

Пастанавілі: Маючы на ўвазе, што: 1) паводле дакладнага сэнсу ўвагі 2 да арт. 64 Зям. Код. непаўналетнія пазбаўляюцца праў членства ў ранейшым двары, калі яны сумесна з бацькам ці маткай адышлі у другі двор, дзе яны набываюць права на маемасьць і карыстаньне зямлёй, бо нельга адначасова быць членам 2-х двароў. Значыць, адзін факт адходу бацькі ці маткі з двара без уступленьня іх у іншы двор яшчэ ня можа паслужыць выстарчальнай падставай, каб

выключыць са складу ранейшага двара непаўналетніх дзяцей, якіх яны забралі з сабою. Такім чынам думка акруговай зямельнай камісіі, што непаўналетнія дзеці, паводле ўвагі 2 да арт. 64 Зям. Код. павінны заўсёды выхадзіць са складу двара разам з сваімі бацькамі, зьяўляецца неправільнай, тым больш, што такое разуменьне памянёнай увагі 2 да арт. 64 Зям. Код. зьменшыла-б законныя правы непаўналетніх членаў двара, што зьяўляецца недапушчальным з пункту гледжаньня савецкага заканадаўства;

2) пры вырашэньні пытаньняў аб членстве ў двары непаўналетніх, адзін з бацькоў якіх адыйшоў з гэтага двара і не ўступіў у другі двор, належыць, між іншым, кіравацца наступным: а) пры наяўнасьці згоды паміж бацькамі аб тым, ці астаецца дзіця членам ранейшага двара, або не, пытаньне гэта вырашаецца ў адпаведнасьці са згодай бацькоў, б) пры адсутнасьці згоды паміж бацькамі пытаньне аб членстве іх дзяцей у ранейшым двары павінна быць вырашана зямельнай камісіяй у кожным канкрэтным выпадку ў залежнасьці ад акалічнасьцяй справы і ў інтарэсах дзяцей, в) што тычыцца да таго, пры кім з бацькоў пры адсутнасьці згоды паміж імі павінны фактычна жыць няпоўналетнія дзеці, дык гэтае пытаньне, незалежна ад рашэньня зямельнай камісіі аб членстве дзяцей, вырашаецца паводле арт. 58 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, у агульна-іскавым парадку народным судом;

3) з даных гэтае справы ня відаць, каб Наста Гарбачова ўступіла ў склад іншага двара;

4) паводле агульнага сэнсу арт. 65 Зям. Код. і пункту „б“ арт. 199 Зям. Код. у новай рэдакцыі непаўналетнія члены двара маюць права, каб двор іх утрымліваў.

Таму, і бяручы пад увагу усе акалічнасьці гэтае справы, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю лічыць, што іск Насты Гарбачовай аб прысуджэньні ёй ад агульнага двара Данілы і Гаўрылы Гарбачовых выплаты ў парадку 84 арт. Зям. Код., а малалетняму яе сыну Уладзімеру—сродкаў на ўтрыманьне зьяўляецца грунтоўным, Пленум Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пастанавіў: рашэньне Віцебскай акруговай зямельнай камісіі за 30 лістапада 1928 г. скасаваць, а рашэньне Сененскай раённай зямельнай камісіі за 21 ліпеня 1928 г., як адпавядаючае чынным законам і фактычным акалічнасьцям справы, пакінуць у сіле.

Слухалі: 6. Прапанову Старшыні Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю аб скасаваньні абзацу 2 пункту 8 тлумачэньня АКВК па журналу яе № 11 за 10 ліпеня 1926 г., з якога як-быццам вынікае, што ўмовы аб пасагу між астаўшыміся ў двары і вышаўшымі з яго членамі павінны карыстацца юрыдычнай абаронай.

Пастанавілі: Маючы на ўвазе, што паводле сэнсу ўвагі I да арт. 64 Зям. Код. асобы, якія ўступаюць у склад двара праз шлюб, набываюць права на карыстаньне зямлёй і маемасьцю ў складзе гэтага двара і трацяць права на крыстаньне зямлёй і маемасьцю ў ранейшым двары, што ўмовы аб пасагу супярэчаць асновам шлюбнага права, а таму яны ня могуць карыстацца юрыдычнай абаронай у судовых органах, Пленум Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пастанавіў: адмяніць абзац 2 пункту 8 тлумачэньня АКВК па журналу яе № 11 за 10 ліпеня 1926 г.

Слухалі: 7. Па прапанове Старшыні АКВК аб скававаньні тлумачэньня АКВК за 16 кастрычніка 1925 г. п. 5 журн. № 1 распарадчага пасяджэньня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пра б. абшарнікаў, выключаных Цэнтральнай Камісіяй па высяленьні б. абшарнікаў са сьпісу асоб, што падлягаюць высяленьню.

Пастанавілі: Маючы на ўвазе, што маемасьць б. абшарнікаў паводле дэкрэту за 19 лютага 1918 г. аб сацыялізацыі зямлі і пастановы II Усебеларускага Зьезду Саветаў за 17 сьнежня 1920 г. па аграрнаму пытаньню прызнана нацыяналізаванай, Пленум Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю пастанавіў: скасаваць тлумачэньне АКВК за 16 кастрычніка 1925 г. пра б. абшарнікаў, выключаных Цэнтральнай Камісіяй па высяленьні былых абшарнікаў са сьпісу асоб, што падлягаюць высяленьню (п. 5 журн. № 1 расп. пасяджэньня АКВК).

---

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра абвяшчэньне „Правіл хаваньня справаздачнасьці ўстаноў, якія знаходзяцца на бюджэтах“.

*Усім распарадчыкам крэдытаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў і органам дзяржаўнага фінансавага кантролю БССР.*

Народны Камісарыят Фінансаў БССР падае да выкананьня ніжэйзьмешчаныя выданыя НКФ Саюзу ССР „Правілы хаваньня справаздачнасьці ўстаноў, якія знаходзяцца на бюджэтах“, якія маюць сваёй мэтай разгрузку ведамсьцевых і сцэцыяльных архіваў ад папяровай макулатуры.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР *Мікуліч.*

---

*Дадатак.*

Зацьвярджаецца.
Народны Камісар Фінансаў СССР—Бруханаў.
5-га красавіка 1929 г.

## Правілы хаваньня справаздачнасьці ўстаноў, якія знаходзяцца на бюджэтах.

Для адмены правілаў № 50 аб хаваньні справаздачнасьці, праверaных установамі фінансавага кантролю, і скончаных спраў гэтых устаноў (Сыст. Збор. пастаноў, абежнікаў і інструкцый НКФ СССР, том II-гі, акт № 229) Наркамфін СССР, на падставе арт. 11-га Палажэньня пра Дзяржаўны Фінансавы Кантроль устанаўляе наступны парадак хаваньня для мэт рэвізіі фінансава-матарыяльнай справаздачнасьці ведамстваў і ўстаноў, якія знаходзяцца на бюджэтах.

1. Справаздачнасьць па фінансава-матарыяльных апэрацыях падлягае хаваньню пры ўстановах на працягу аднаго году пасьля зацьверджаньня справаздачы (пры апэрацыях, якія цягнуцца больш аднаго году, як: будаўніцтва шляхоў, электрастанцый і інш.—на працягу аднаго году пасьля зацьверджаньня агульнай справаздачы аб выкананьні ўсіх работ).

*Увага 1:* Паказаны гадавы тэрмін вылічаецца: па ўстановах дзяржаўнага бюджэту—ад часу зацьверджаньня справаздачы кіраўніком ведамства (наркомам), а па ўстановах мясцовых бюджэтаў—ад часу зацьверджаньня српаваздачы адпаведным выканаўчым камітэтам.

*Увага 2:* Калі да часу мінаваньня паказанага гадавога тэрміну застануцца няскончанымі апэрацыі па разьліках з трэцьмі асобамі, або калі паўстануць новыя прэтэнзіі па апэрацыях ужо скончаных, дык адпаведныя дакуманты і кнігі выдзяляюцца з агульнай масы справаздачнасьці і падлягаюць асобнаму хаваньнню да ліквідацыі разьлікаў і прэтэнзій.

*Увага 3:* Паказаныя тэрміны не пашыраюцца на справаздачнасьць па фінансава матарыяльных зваротах у замежнай валюце; гэтая справаздачнасьць падлягае хаваньню пры ўстановах на працягу 10 год.

2. Бухгальтарскія справаздачы і балянсы, якія паступаюць у вышэйстаячыя органы ад іх падпарадкаваных устаноў, а таксама ў органы Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю ад падкантрольных устаноў, падлягаюць хаваньню за тры папярэднія справаздачныя пэрыады.

3. Пасьля мінаваньня памянёных вышэй тэрмінаў, пытаньне аб мэтазгоднасьці, месцы і далейшых тэрмінах хаваньня справаздачнасьці вырашаецца адпаведнымі архіўнымі органамі на падставе існуючага архіўнага заканадаўства.

4. Гэтыя Правілы пашыраюцца таксама на справаздачнасьць бюджэтных устаноў за папярэднія гады, якая ўжо праверана, але яшчэ застаецца ў органах Дзяржаўнага Фінасавага Кантролю.

Пам. Начальніка Галоўнай Управы
Дзяржфінкантролю пры НКФ СССР *Мулярчук.*

---

## 19. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі БССР

**пра правядзеньне мерапрыемстваў для ўзмацненьня і забясьпечаньня росту калгасаў.**

*Усім раённым і сельскім камітэтам сялянскіх т-ваў Узаемадапамогі і калгассаюзам БССР.*

Для разьвіцьця дзяржаўных дырэктыў і правядзеньня мерапрыемстваў па ўзмацненьню і забясьпечаньню росту калгасаў V Усебеларускім Зьездам Сялянскае Узаемадапамогі і II-й Сэсіяй Калгассаюзаў БССР пастаноўлена лічыць галоўнай задачай камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі каляктывізацыю вёскі, арганізацыю вытворчых аб'яднаньняў і капераваньне, пры поўнай увязцы гэтай працы з калгассаюзамі.

Масавы рост калгасаў прад'яўляе новыя і больш складаныя запатрабаваньні ў арганізацыйна-вытворчым абслугоўваньні і ўзмацненьні матарыяльнай дапамогі ім.

Ажыцьцяўленьне гэтых задач залежыць у значнай меры ад найбольш поўнай увязкі работы калгассаюзаў з камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі. Правільныя ўзаемаадносіны гэтых двух арганізацый на мясцох павінны ў асноўным вызначацца наступнымі момантамі.

1. З мэтаю аказаньня ўзаемна-арганізацыйнай матарыяльнай дапамогі, накіраванай на палепшаньне і каляктывізацыю вёскі, калгасы ўступаюць членамі ў тое сялянскае т-ва ўзаемадапамогі, на тэрыторыі якога яны знаходзяцца. Прыём калгасу ў члены т-ва сялянскае ўзаемадапамогі праводзіцца агульным сходам сельупаўнаважаных на агульных падставах, гэта значыць, на аснове дабравольна-каляктыўнага членства, як юрыдычная асоба. Для ажыцьцяўленьня сувязі калгасаў з КСТУ кожны калгас ад сябе абірае ўпаўнаважанага. У тых калгасах, дзе ёсьць да 30 членаў, абіраецца адзін упаўнаважаны, а там дзе звыш 30 членаў абіраецца адзін ўпаўнаважаны ад кожных 30 членаў. Сход сельскіх упаўнаважаных сялянскае ўзаемадапамогі ўстанаўляе разьмеры членскага ўзносу для калгасу, але ня менш 3% сумы налі-

чанага с.-г. падатку на калгас, прычым маламоцным калгасам павінны даваццa льготы па ўплаце членскіх узносаў, растэрміноўка, памяншэньне ўзносу, і нават поўнае вызваленьне.

2. Калгасы павінны прымаць актыўны ўдзел у дапамозе камітэтам у зборы членскіх уносаў для ажыцьцяўленьня камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі розных мерапрыемстваў, як: стварэньне насеннага фонду, арганізацыя пракатных пунктаў, прадпрыемстваў і інш.

3. Камітэты сялянскае ўзаемадапамогі павінны ўсімі спосабамі дапамагаць арганізацыі сваіх членаў, галоўным чынам, з бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі, у калякгыўныя аб'яднаньні.

4. Калгасам—членам сялянскай узаемадапамогі камітэты СТУ робяць наступную дапамогу:

а) выдаюць пазыкі на ўплату за бядняцкія гаспадаркі паявых узносаў, на набыцьцё жывёлы і на кармленьне;

б) выдаюць насеньне з сваіх фондаў на засеў палёу тым калгасам, якія маюць у гэтым патрэбу;

в) абслугоўваюць у першую чаргу маламоцныя калгасы с.-г. машынамі, інвэнтаром пракатных пунктаў, прадпрыемствамі і г. д.

5. Сялянская ўзаемадапамога сваёй грамадзкай матарыяльнай дапамогай павінна дапамагаць пераходу ад ніжэйшых форм аб'яднаньня (пасялковых т-ваў, т-ваў па грамадзкай апрацоўцы зямлі), да больш рацыянальных форм (с.-г. арцелі і камуны).

6. Улічваючы, што калгасы ў культурных адносінах знаходзяцца яшчэ не на належнай вышыні, камітэты сялянскай узаемадапамогі павінны дапамагаць калгасам у гэтай справе сваімі сродкамі.

7. Калгасы павінны с.-г. машынамі, інвэнтаром, злучнымі пунктамі і прадпрыемствамі, што ёсьць ў іх, аказваць дапамогу бяднейшым членам сялянскае ўзаемадапамогі па сьпісах камітэтаў.

8. Усе калгасы, што арганізуюцца сялянскай узаемадапамогай, з часу іх афармленьня перадаюцца калгассаюзам.

Час. вык. аб. Старшыні Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі *Арапучык.*

Старшыня Белкалгассаюзу *Сьмірноў.*

14 мая 1929 г.
№ 2.

---

## 20. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра правілы і нормы па жылішчнаму будаўніцтву.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

Даручыць Камітэту па Будаўніцтву апублікаваць распрацаваныя ім часовыя правілы і нормы па жылішчнаму будаўніцтву і абавязаць усе ўстановы і арганізацыі кіравацца гэтымі правіламі.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Намесьнік Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

22 красавіка 1929 г.
г. Менск.

---

*Дадатак.*

# Часовыя будаўнічыя правілы і нормы для жылішчнага будаўніцтва ў БССР, якое праводзіцца за кошт дзяржаўных, грамадзкіх і каперацыйных сродкаў.

**Пры складаньні праектаў і правядзеньні як пасялковага, так і гарадзкога жылішчнага будаўніцтва, павінны захоўвацца наступныя правілы:**

## Разьдзел I.

### Выбар вучастку пад забудову пасёлка і яго пляніроўка

1. Выбар вучастку пад забудову пасёлка і яго пляніроўка павінны рабіцца ва ўсім згодна п. п. 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14 і 15 часовых будаўнічых правіл і норм для пабудовы жылых дамоў у пасёлках, зацьверджаных пастановаю Савету Працы і Абароны за 28 ліпеня 1926 г. (З. З. СССР, 1926 г., № 53, арт. 391).

## Разьдзел II.

### Тэхнічныя і супроцьпажарныя нормы.

1. Будынкі могуць быць каменнымі, мешанымі і драўлянымі, пры гэтым у залежнасьці ад ступені абароненасьці капітальных сьцен пабудоў ад разбурэньня агнём, будынкі падзяляюцца на 3 катэгорыі.

1) Да першай катэгорыі належаць каменныя будынкі.

Каменнымі будынкамі лічацца такія будынкі, у якіх капітальныя сьцены пабудаваны з агнятрывалых матарыялаў (камень, цэгла, бэтон, неапаленая гліна і інш.) у відзе суцэльных сьцен з паветравымі праслойкамі як засыпанымі так і незасыпанымі пухкімі матарыяламі.

*Увага.* Сьцены з агнятрывалых матарыялаў, пакрытыя з унутранага альбо знадворнага боку загараючыміся тэрма-ізаляцыйнымі матарыяламі, у відзе плітаў альбо матаў, якія шчыльна прылягаюць да паверхні сьцяны лічацца агнетрывалымі, калі канструкцыйная частка сьцяны з агнятрывалых матарыялаў мае таўшчыню няменш 15 сантымэтраў.

2) Да другой катэгорыі належаць:

а) мешаныя будынкі, у якіх капітальныя сьцены складаюцпа як з дрэва, так і з агнятрывалых матарыялаў;

б) мешаныя двухпавярховыя будынкі, у якіх першы паверх мае каменныя сьцены, а другі паверх—драўляныя, абароненыя ад загараньня сьцены;

в) мешаныя аднапавярховыя будынкі, у якіх частка капітальных сьцен зьяўляецца каменнымі, а частка драўлянымі;

г) будынкі, якія маюць сьцены з драўлянымі канструкцыйнымі часткамі, пакрытымі з знадворнага ліцавога боку слоям агнятрывалага матарыялу, таўшчынёю менш за 5 сантымэтраў і атынкованымі альбо адпаведна абароненымі з унутранаго боку.

*Увага*: Абаронны слой можа быць менш за 5 сант. пры пакрыцьці сьцен асбафанерай альбо падобным, адпаведна выпрабаваным, матарыялам.

3) Да трэцяй катэгорыі належаць драўляныя, не абароненыя ад загараньня будынкі, сьцены якіх у сваіх асноўных канструкцыях пабудаваны з дрэва.

2. Будынкі другой і трэцяй катэгорыі не павінны мець больш за два паверхі.

3. Даўжыня будынкаў першай катэгорыі можа быць рознаю пры ўмове захаваньня патрабаваньняў пажарнай бясьпекі і санітарыі;

для другой катэгорыі будынкаў даўжыня павінна быць:

а) пры вышыні у адзін паверх 60 мэтраў;

б) „ „ „ два „ 54 „

*Увага:* У асобных выпадках для жылых дамоў асобнай пляніроўкі з дазволу Кіраўніцтва Будаўнічага Кантролю дапушчаецца гранічная даўжыня да 72 мэтр.

Для трэцяй катэгорыі:

а) пры вышыні ў адзін паверх—50 мэтраў;

б) „ „ „ два паверхі —35 „

Шырыня корпусу забудаваньня без уключэньня сьцен дапушчаецца:

а) для будынкаў І-й катэгорыі ад 9—10,5 мэтр.,

б) для ІІ катэгорыі і ІІІ-й для пабудоў каркасных ад 8,5—10,5 мэтр.

в) для рубленых—у межах стандарту круглага лесу.

*Увага:* У выпадку патрэбы мець у пляне праектуемага будынку ІІ-й і ІІІ-й катэгорый два альбо некалькі зьвязаных паміж сабой пад кутом корпусы ў форме „Г“, „П“, „Т“ і інш., агульная гранічная даўжыня выступаючых частак будынку ў гэтым выпадку ўстанаўляецца Кіраўніцтвам Будаўнічага Кантролю, але не павінна перавышаць 60% асноўнай лініі.

4. Гранічныя разьмеры будынку, які складаецца з двух альбо некалькіх, зьвязаных паміж сабой пад кутом карпусоў, вызначаюцца з захаваньнем для кожнага корпусу даўжыні, адпаведна паказанай у арт. 3 плошчы, занятай у пляне пабудовай.

Гэтая плошча не павінна перавышаць:

для будынкаў першай катэгорыі без абмежаваньня;

для будынкаў другой катэгорыі:

а) пры вышыні у адзін паверх—1000 кв. мэтраў,

б) „ „ „ два паверхі— 800 „ „

для будынкаў трэцяй катэгорыі:

а) пры вышыні у адзін паверх—800 кв. мэтраў,

б) „ „ „ два паверхі —600 „ „

5. Мансардны альбо падстрэшны жылы паверх у аднапаверхавых і двухпаверхавых дамох ня ўключаецца ў гранічны лік паверхаў, паказаных у арт. 2. і, калі плошча мансарднага альбо падстрэшнага паверху займае ня больш 50% плошчы ніжэйляжачага паверху. Няжылы падстрэшны паверх (падстрэшша) ня ўключаецца ў гранічны дапушчаемы лік паверхаў ва ўсіх выпадках. Рабіць мансарднае альбо падстрэшнае жылое памяшканьне ў 2-х паверхавых дамох 3-й катэгорыі не дазваляецца.

6. Пад будынкамі дазваляецца рабіць сутарэньнявыя і паўсутарэньнявыя паверхі, акружаныя па знадворнаму пэрымэтру пабудоў каменнымі сьценамі, пры гэтым такі паверх ня ўключаецца ў гранічны лік паверхаў, паказаных у арт. 2 і, калі падлога першага паверху выступае ня больш, чымся на 1,5 мэтра над сярэдняй і ня больш, чымся на 2,8 мэтра над самай нізкай паметкай паверхні зямлі, якая прылягае да пэрымэтру будынку.

*Увага:* Сутарэньнявым альбо паўсутарэньнявым паверхам называецца ўсякі паверх, падлога якога хаця-б часткова разьмешчана ніжэй прылягаючай да пэрымэтру пабудовы паверхні зямлі.

Паверх лічыцца паўсутарэньнявым, калі больш паловы агульнай паверхні знадворных сьцен паміж яго падлогай і стольлю разьмешчана вышэй прылягаючай тэрыторыі; калі-ж палова альбо больш паловы агульнай паверхні сьцен яго ляжыць ніжэй паверхні зямлі, то паверх лічыцца сутарэньнявым.

Частка памяшканьня сутарэньнявага паверху можа разглядацца як паўсутарэньневае, калі палова паверхні сьцен іх разьмешчана вышэй прылягаючай тэрыторыі.

7. Кожны будынак даўжынёю для другой і трэцяй катэгорый— больш за гранічную даўжыню (арт. 3) і для першай катэгорыі—больш 60 мэтраў, павінен быць падзелены брандмаўрамі на асобныя вучасткі так, каб адлегласьць паміж двумя сумежнымі брандмаўрамі альбо адлегласьць ад торцавай сьцяны да бліжэйшага брандмаўра не перавышала ў будынках другой і трэцяй катэгорыі гранічнай даўжыні (арт. 3), у будынках першай катэгорыі—54—60 мэтраў.

Пры пабудове брандмаўраў трэба захоўваць наступныя правілы:

а) брандмаўры павінны знаходзіцца на фундамантах і ня мець дзьвярных альбо ваконных праёмаў; у тым выпадку, калі брандмаўры зьяўляюцца аднача́сна аднэй з сьцен усходавай клеткі, рабіць дзьвярныя праёмы ў іх дазваляецца;

б) у каменных будынках вышынёю ня больш двух паверхаў, і ў двух верхніх паверхах трохпаверхавых будынкаў унутранымі брандмаўрамі могуць быць, апроч звычайных цэглавых, каменных альбо бэтонных сьцен, жалеза-цэглавыя сьцены, таўшчынёю ў 1/2 цэглы, жалезабэтонныя сьцены, таўшчынёю ня менш 10 сантымэтраў, альбо сьцены з бэтонных пустацелых каменьняў, таўшчынёю ня менш 15 сант.

в) ва ўсіх іншых выпадках брандмаўры павінны рабіцца з агнятрывалых матарыялаў, таўшчынёю ня менш 25 сантымэтраў;

г) брандмаўры павінны стаяць над абводам даху на 40 сант.

д) пры драўляных сьценах, не абароненых ад загараньня, брандмаўры павінны выступаць ня менш, чымся на 25 сантымэтраў за знадворную ліцавую паверхню сьцяны.

8. Непасрэдняе прымыканьне торцавых сьцен двух драўляных будынкаў альбо драўлянага і зьмешанага будынку дапушчаецца пры ўмове, каб даўжыня самкнутага блёку ў залежнасьці ад таго, ці належыць драўляны змыкаемы будынак да другой і трэцяй катэгорыі, не перавышала адпаведных межаў, паказаных у арт. 3 для будынкаў другой і трэцяй катэгорый.

Прымыканьне торцавых сьцен каменнага і драўлянага будынкаў дапушчаецца пры ўмове, каб агульная даўжыня самкнутага блёку не перавышала 80 мэтраў, а агульная даўжыня ўваходзячых у яго драўляных будынкаў у залежнасьці ад таго, ці належыць апошняя да другой альбо да трэцяй катэгорыі, не перавышала межаў, паказаных у арт. 3 для другой і трэцяй катэгорый.

У астатніх выпадках дазваляецца непасрэднае прымыканьне торцавых сьцен сумежных будынкаў, з захаваньнем гранічнай даўжыні блёку ня больш 80 мэтраў і з захаваньнем для кожнага змыкаемага будынку адпаведнай гранічнай даўжыні, паказанай у арт. 3.

9. Пры прымыканьні двух сумежных будынкаў, кожны будынак павінен мець у якасьці торцавай сьцяны брандмаўры, таўшчынёю ня менш 25 сантымэтраў.

10. Для папярэджаньня зацямненьня жылых памяшканьняў проціleглымі будынкамі, калі хаця-б у аднэй з проціleглых сьцен разьмешчаны вокны з жылых памяшканьняў, адлегласьць паміж проціleг-

лымі будынкамі павінна ўстанаўляцца ў залежнасьці ад кліматычных умоў і павінна быць ня менш вышыні больш высокай з процілеглых сьцен.

Вышынёю сьцяны лічыцца простападная адлегласьць ад сярэдняй паметкі паверхні зямлі, якая прылягае да пэрымэтру данай сьцяны, да ніжняга зьвесу страхі, а ў выпадку наяўнасьці мансарднага паверху вышынёю сьцяны лічыцца простападная адлегласьць ад сярэдняй паметкі прылягаючай да пэрымэтру данай сьцяны паверхні зямлі да верхняй раўніны паземнага перакрыцьця мансардных памяшканьняў.

11. З мэтаю зьмяншэньня пажарнай небясьпекі, разрывы паміж будынкамі як уздоўж лініі забудоўкі, так і ўнутры сядзібнага вучастку, павінны быць, з захаваньнем правіл паказаных у арт. 10, ня менш:

| | У пасёлках | У гарадох |
|---|---|---|
| а) паміж двума каменнымі будынкамі . . | 6 мэтр. | 5 мэтр. |
| б) паміж драўлянымі і каменнымі будынкамі . . . . . . . . . . . . . . . . . | 9 „ | 7 „ |
| в) паміж драўлянымі будынкамі . . . . | 12 „ | 10 „ |

*Увага 1:* Мешаныя будынкі пры вызначэньні вялічыні супроцьпажарных разрываў прыраўноўваюцца да драўляных, а будынкі службаў, сьцены і пакрыцьці якіх абсыпаны слоям зямлі (халадзільнікі, склепы і г. д.), да каменных будынкаў.

*Увага 2;* Унутры сядзібнага вучастку разрывы паміж жылымі будынкамі і будынкамі службаў, якія займаюць плошчу ня больш 40 кв. мэтраў, а таксама разрывы паміж будынкамі службаў могуць быць роўны 2/3 разьмераў, паказаных вышэй, пры ўмове, што гэтыя разрывы адпавядаюць патрабаваньням арт. 10.

12. У выпадку самкнутай забудоўкі і непасрэднага прымыканьня двух рознай вышыні будынкаў у каменных торцавых сьценах больш высокага будынку можна рабіць глухія неадчыняючыяся вокны з зашкленьнем „Монье“ альбо „Фальконье“ і г. д. бяз ужываньня згараючых рамаў.

Такія сьцены пры вызначэньні супроцьпажарных разрываў разглядаюцца як глухія каменныя сьцены.

*Увага.* Вокны „Монье“ і „Фальконье“ і інш. дапушчаюцца толькі для дапаможных памяшканьняў, за выключэньнем кухняў.

13. У жылых дамох з індывідуальнымі кватэрамі альбо аб‘яднанымі гаспадарчымі памяшканьнямі з агульнымі калідорамі гранічная адлегласьць паміж усходамі будынкаў 1-й катэгорыі, пры незгараючых сьценах і перакрыцьцях калідораў, што вядуць на ўсходы, устанаўляецца да 60 мэтраў, з палавіннай супроць гэтага адлегласьцю ад восі найбольш далёкай дзьверы жылога памяшканьня да восі выхаду на плошчу ўсходаў данага паверху.

Адлегласьць паміж усходамі будынкаў 3-й катэгорыі—30 мэтр. з палавіннай адлегласьцю да найбольш далёкай дзьверы ад усходаў.

Адлегласьць паміж усходамі будынкаў 1-й і 2-й катэгорый пры абароненых ад загараньня драўляных частак калідору—да 40 мэтраў з палавіннай супроць гэтага адлегласьцю ад восі найбольш далёкай дзьверы да выхаду на ўсходы.

14. У кожным паверху жылых дамоў з кватэрамі, якія маюць індывідуальныя гаспадарчыя памяшканьні, на ўсходавую плошчу могуць выходзіць дзьверы ня больш як з чатырох кватэр у дамох першай

катэгорыі і ня больш як з трох кватэр у дамох другой і трэцяй катэгорый.

У дамох другой і трэцяй катэгорый з мансарднымі альбо падстрэшнымі памяшканьнямі дапушчаецца рабіць ня больш сямі выхадаў на адну ўсходавую клетку.

Усе выхады з калідораў, праходаў і ўсходаў павінны мець дзьверы, што адчыняюцца знадворку.

15. У выпадку разьмяшчэньня аднэй кватэры ў двух паверхах дапушчаецца рабіць адны ўнутраныя ўсходы.

16. Калі ўсходы вядуць у адну толькі кватэру, разьмешчаную ня вышэй другога паверху, то дапушчаецца рабіць усходы па-за знадворнымі сьценамі будынку, але абавязкова рабіць прыкрыцьцё, абараняючае ўсходы ад атмасфэрных асадкаў.

17. У будынках інтэрнатаў лік усходаў вызначаецца з разьліку па адных сходах на кожныя 200 кв. мэтр. жылой плошчы ў кожным паверху вышэй першага; у двухпавярховых будынках другой і трэцяй катэгорый замест патрабуемых мінімальна двух усходаў дапушчаюцца адны ўсходы ва ўсходавай клетцы і дзьве знадворных пажарных з выхадам на іх з агульнага калідору.

18. У двух і трохпаверхавых жылых будынках на кожныя 30 мтр. даўжыні ў драўляных і мешаных будынках і на кожныя 40 мэтраў у каменных будынках адны ўсходы павінны быць даведзены да падстрэшша.

19. Уваход на няжылое падстрэшша ў аднапаверхавых дамох, у тым ліку і маючых мансардныя паверхі, можна рабіць пры дапамозе драўляных альбо жалезных знадворных прыстаўных, наглуха прымацаваных ўсходаў, разьмяшчаемых на адлегласьці, паказанай у арт. 18.

20. У каменных дамох вышынёю да 3-х паверхаў уключна дапушчаюцца драўляныя ўсходы ў сходавых клетках з агнятрывалымі сьценамі і такімі-ж самымі перакрыцьцямі.

У каменных 2-х паверхавых дамох дапушчаюцца драўляныя ўсходы ў сходавых клетках з агнятрывалымі сьценамі і перакрыцьцямі з неагнятрывалых матар‘ялаў, атынкаваных зьнізу.

21. Усходы павінны рабіцца ва ўсходавых клетках, прылягаючых хаця-б адным бокам да знадворнай сьцены і аддзеленых ад іншых памяшканьняў сьценамі, даведзенымі пад перакрыцьце над верхнім паверхам альбо пад дах. Усходавая клетка павінна быць асьветлена непасрэдна натуральным сьветам і павінна мець ня менш аднаго вакна ў знадворнай сьцяне; рабіць сьветавыя ліхтары над усходавымі клеткамі дапушчаецца, як дадатковае асьвятленьне.

Калі ўсходавая клетка не мае непасрэднага выхаду знадворку, то прамежнае памяшканьне, разьмешчанае паміж усходавай клеткай і знадворным выхадам, павінна быць абкружана такімі самымі сьценамі як і ўсхадавая клетка. Перакрыцьце ўсходавай клеткі і памянёнага прамежнага памяшканьня павінна быць абаронена з ніжняй паверхні ад загараньня, а зьверху павінна быць засыпана слоем зямлі, пяску альбо будаўнічага сьмецьця, таўшчынёю ня менш 10 сант.

*Увага.* Паказаныя ў гэтым артыкуле правілы не пашыраюцца на ўсходы, паказаныя ў арт. 15 і 16.

22. У драўляных будынках рубленыя сьцены ўсходавых клетак павінны быць з боку усходавай клеткі абаронены ад загараньня; драўляныя сьцены шкелетнага тыпу павінны быць абаронены ад загараньня з двух бакоў.

23. Вышыня ступеняй усходаў, якія вядуць у жылыя памяшканьні, павінна быць ня больш 18 сантымэтраў, а шырыня праступу ня менш 27 сантымэтраў. Вышыня ступеняй усходаў. паказаных у арт. 15 і 16, павінна быць ня больш 20 сантымэтраў і шырыня праступу ня менш 25 сантымэтраў.

Дапушчаецца рабіць забежныя ступені пры ўмове захаваньня па восі сходаў шырыні праступу ня менш 22 см., шырыня-ж праступу краю ступені павінна быць ня менш 18 см. Як шырыня, так і даўжыня пляцовак павінны быць ня менш шырыні маршаў.

Рабіць разразныя прамежныя пляцоўкі не дапушчаецца.

У дамох з індывідуальнымі кватэрамі карысная шырыня маршаў павінна быць ня менш: для ўсходаў, што вядуць у жылыя паверхі трохпаверхавых будынкаў—1,1 мэтра, для усходаў, што вядуць у жылыя паверхі двухпаверхавых будынкаў — 0,9 мэтра і для ўсходаў, што вядуць на няжылое падстрэшша і наогул у няжылыя памяшканьні— 0,7 мэтра, пры ўмове, што карысная плошча ўсіх кватэр, якія выходзяць на адзін пляц ня больш 210 кв. мэтраў; пры большай-жа вялічыні карыснай плошчы ўсіх кватэр, якія выходзяць на адну плошчу, карысная шырыня маршаў для ўсходаў, якія вядуць у жылыя паверхі 3-х паверхавых будынкаў, павінна быць ня менш 1,20 мэтра, а для ўсходаў, якія вядуць у жылыя паверхі 2-х паверхавых будынкаў—ня менш 1-го мэтра.

Карысная шырыня маршаў усходаў, памянёных у арт. 15, павінна быць ня менш 0,8 мэтра, а ўсходаў, паказаных у арт. 16, ня менш 0,9 мэтра.

У будынках інтэрнату карысная шырыня маршаў павінна быць ня менш 0,9 мэтра, калі ў паверху вышэй першага жыве ня больш 10 чал. На кожныя лішнія 5 чалавек, што жывуць вышэй першага паверху, шырыня маршаў павялічваецца на 0,1 мэтра, але ня больш, чымся на 1,6 мэтра.

24. Для ўсходавых клетак жылых дамоў ухіл усходаў устанаўляецца: а) для будынкаў да 3-х паверхаў уключна 1 : 1,5; б) для будынкаў звыш 3-х паверхаў ад 1 : 1,25 да 1 : 2; гранічныя разьмеры ў частасьці ступеняй: шырыня праступаў ня менш 27 см.; вышыня падступенькі ня больш 18 см.

Для сутарэньняў ухіл усходаў дапушчаецца з адносінай 1 : 1,75 і разьмерамі ступеняй 22 см. × 18 см.

На падстрэшша дапучшаюцца ўсходы з ухілам да 45°.

Дапушчаюцца забежныя ступені з тым, каб шырыня іх па восі марша была ня менш 22 см.

Лік ступеняў у маршы ня можа быць больш 18.

25. Усе ўнутраныя паверхні драўляных як капітальных сьцен, так і перагародак, у жылых дамох павінны быць атынкаваны. У рубленых драўляных дамох неатынкаваныя ўнутраныя паверхні драўляных капітальных сьцен і перагародак дапушчаюцца на працягу двух першых гадоў пасьля сканчэньня пабудовы.

Ніжняя паверхня міжпаверхавых перакрыцьцяў (столь) можа быць неатынкаванай, пры гэтым дазваляецца рабіць адчыненыя выступаючыя ў памяшканьні балькі.

26. Рабіць у сутарэньнях жылыя памяшканьні, кухні, прыбіральні не дапушчаецца.

Рабіць гэтыя памяшканьні ў паўсутарэньнях дазваляецца пры ўмове, каб падлога гэтых памяшканьняў была ня ніжэй 0,75 мэтраў ад прылеглай паверхні зямлі, пры гэтым у памяшканьнях паўсутарэньняга

паверху канструкцыя падлог і сьцен павінна быць такая, каб памяшканьні былі забаронены ад павярхоўнай альбо грунтоўнай вільгаці.

27. Пры жылых будынках, якія маюць менш 3-х паверхаў, дазваляецца рабіць драўляныя галярэі, тэрасы, бальконы, усходы, ганкі і інш. з тым:

а) каб кожная такая прыбудоўка мела ў пляне ня больш 20 кв. м.;

б) каб агульная працяжнасьць гэтых прыбудоў па ўздоўжнай фасаднай лініі пабудовы складала ня больш 1/5 даўжыні фасаду;

в) каб такія прыбудоўкі не павялічвалі гранічнай, дапушчаемай гэтымі правіламі, даўжыні і разьмераў будынкаў;

г) каб разрывы паміж процілеглымі будынкамі вымяраліся ад крайніх выступаючых часьцей такіх прыбудоў і адпавядалі нормам, якія ўстаноўлены для будынкаў чацьвертай катэгорыі.

28. У пабудовах драўляных, мешаных і каменных, якія маюць ня больш двух паверхаў, дапушчаецца рабіць драўляныя зонты і не абароненыя ад загараньня, абароненыя дрэвам франтоны. Рабіць неатынкаваныя драўляныя, па адкрытых страпілах зьвесаў, стрэхі і неатынкаваныя драўляныя карнізы дазваляецца ў будынках трэцяй катэгорыі і ў будынках другой катэгорыі з драўлянымі часьцямі, не абароненымі ад загараньня.

У драўляных будынках трэцяй катэгорыі і ў мешаных будынках другой катэгорыі групы А дазваляецца рабіць такія самыя завесы драўляныя-ж карнізы павінны быць атынкаваны. Атынкаваныя драўляныя, па адкрытым страпілам зьвесаў, стрэхі і карнізы дазваляецца рабіць у каменных будынках, якія маюць ня больш двух паверхаў, за выключэньнем тых выпадкаў, калі каменны будынак непасрэдна прылягае да драўлянага будынку. У гэтым апошнім выпадку, а таксама ў каменных будынках, якія маюць больш двух паверхаў, карнізы павінны быць з агнятрывалых матарыялаў.

29. Страха будынкаў павінна быць зроблена з незагараючыхся альбо цяжка загараючыхся матарыялаў.

Ужываць лёгка загараючыяся матарыялы для страхі дазваляецца ў аднапавярховых дамох з мансардамі і бяз іх, пры памяншэньні дапушчаемай гэтымі правіламі даўжыні гэтых дамоў і пляцу забудоўкі ў два разы і павялічэньні ў два разы адпаведных разрываў.

Незагараючыміся матарыяламі для стрэх лічацца: жалеза, чарапіца, шыфэр, церафазэрыт, этэрніт, гольцэмэнт, пакрыты незагараючыміся матарыяламі і інш. Цяжка загараючыміся матарыяламі лічацца: гліна-салома, толь, руберойд і інш. Лёгка загараючыміся лічацца: цёс, драньсалома, камыш і інш.

У сутарэньнях, прызначаных для апалу, гаручых матарыялаў і інш. неабходна рабіць незгараемыя перакрыцьці, а таксама асобныя ўсходы па-за ўсходавай клеткі.

30. Фундаманты можна рабіць у відзе суцэльных сьцен, а таксама ў відзе асобных слупоў альбо крэслаў.

Калі робяцца фундаманты для знадворных сьцен, то падашва іх павінна быць, як агульнае правіла, закладзена ніжэй лініі прамярзаньня альбо адтайваньня, за выключэньнем выпадкаў, калі грунт па яго складу (пясок, граві і інш.) не падлягае дэфармацыі пры замярзаньні альбо адтайваньні. У апошнім выпадку, а таксама для ўнутраных сьцен глыбіня закладаньня фундаманту вызначаецца толькі ў залежнасьці ад умоў надзейнасьці грунту.

31. Калі робяцца каменныя фундаманты, то абавязкова трэба рабіць ізаляцыйны слой супроць глебавай вільготнасьці.

32. Для двух печаў аднэй кватэры дазваляецца рабіць адзін агульны дымаход, сячэньнем ня менш 300 кв. сантымэтраў.

33. Для кухняў інтэрнатаў павінна быць прадугледжана пабудова каналу, каб магчыма было зрабіць параадвод.

34. Рабіць перакідныя боравы ў межах памяшканьня дапушчаецца ў выключных выпадках з тым, каб канструкцыяй бораваў была папярэджана магчымасьць зьяўленьня шчылін у іх мясцох іх злучэньняў з печамі і дымаходамі і каб даўжыня кожнага борава не перавышала 2-х мэтраў. Рабіць перакідныя боравы на вышцы зусім не дапушчаецца.

35. Паміж драўлянымі часьцямі будынкаў, праходзячымі блізка каля іх дымаходамі, трэба рабіць падзелы так, каб адлегласьць паміж унутранай паверхняю дымаходу і крайнімі паверхнямі драўляных часьцей была ня менш 1,5 цэглы.

Калі драўляныя часьці абернуты альбо абшыты азбеставым картонам таўшчынёй ня менш 3 мілімэтраў, гэта адлегласьць можа быць паменшана да 18 сантымэтраў. У адкрытых мясцох, у якіх азбеставы картон можа пашкодзіцца, ён павінен быць пакрыты стрэхавым жалезам.

36. Паказаныя правілы і маючыяся ў іх будаўнічыя нормы абавязковы для жылішчнага будаўніцтва ва ўсіх гарадох, рабочых, курортных і дачных пасёлках. Гэтыя правілы не пашыраюцца на тыя пабудовы, якія ўжо пачаты, альбо праекты якіх зацьверджаны ва ўстаноўленым парадку да ўвядзеньня ў дзейнасьць гэтых правіл.

## РАЗЬДЗЕЛ III.

### Пляніроўка кватэр.

37. Кожная кватэра павінна задавальняць наступным запатрабаваньням:

а) кватэры могуць быць з індывідуальнай гаспадаркай альбо аб'яднанымі цалкам ці часткова гаспадарчымі памяшканьнямі.

*Увага.* Пры вызначэньні плошчы кватэры па ліку будучых жыхароў яе прымаецца 9 кв. мэтраў жылой плошчы на аднаго чалавека; пры вызначэньні плошчы памяшканьняў, якія прызначаны толькі для начлегу (спальняў) і ўваходзяць у склад кватэры, задавальняючай паказаным вышэй нормам, прымаецца 6 кв. мэтраў плошчы падлогі і 20 кб. мэтраў памяшканьня на аднаго чалавека.

У мансардах і вышачных жылых памяшканьнях норма плошчы павінна быць павялічана з такім разьлікам, каб на аднаго чалавека прыходзілася ня менш 25 кб. мэтраў жылога памяшканьня;

б) быць зусім адасобленай і аддзяляцца ад суседняй кватэры глухою сьцяною ці перагародкаю, а ад кватэр, якія знаходзяцца вышэй і ніжэй, павінна быць ізаляванаю ад перадачы гуку паміжпаверхавым перакрыцьцём;

в) адпавядаць па магчымасьці ўмовам наскрознага праветрываньня, г. зн. мець вокны на 2 палавіны ў двух процілеглых альбо ў двух крыжавых сьценах. Палавінныя часьці вакон павінны складаць ня менш 50% плошчы ваконнае адтуліны, і, апроч таго, у тых мясцовасьцях, у якіх па кліматычных умовах у жылых дамох ужываюцца падвойныя ваконныя пераплёты, трэба рабіць адпаведныя палавінныя часьці для праветрываньня памяшканьняў у халодны час (фортачкі, фрамугі і інш.);

*Увага.* Для кватэр плошчаю ня менш 70 кв. мэтраў захаваньне ўмоў наскрознага праветрываньня кватэр абавязкова.

г) мець, апроч жылых пакояў, гаспадарчыя памяшканьні адпаведна мясцовым і бытавым умовам.

*Увага.* Памяшканьні кухняў, пральняў, прыбіральняў могуць рабіцца агульныя на некалькі кватэр.

д) прыбіральні павінны рабіцца пераважна ў межах капітальных сьцен. Калі памяшканьне прыбіральні знаходзіцца ў знадворнай капітальнай сьцяне, то з памяшканьня прыбіральні (ватэр-клозэт) альбо з выгрэба (люфт-клозэт) павінна быць забясьпечана выцяжка праз блізнаходзячыйся канал (дымаход), які апальваецца адыходзячымі прадуктамі гарэньня прыбору, які дзейнічае, па магчымасьці, на працягу круглага году (напрыклад, кухонны ачаг, руская печ і інш.);

*Увага.* Пры пляніроўцы кватэр з карыснаю плошчаю больш 70 кв. мэтраў абавязкова павінна быць прадугледжана месца для такіх прыбіральняў.

е) кожная кватэра павінна мець самастойны непасрэдны выхад знадворку альбо выхад на агульны ганак, альбо ў калідор, які вядзе да ўсходавай клеткі.

38. Будынкі інтэрнатаў павінны задавальняць наступным патрабаваньням:

1) інтэрнаты, якія разьлічаны ня больш 400 кв. мэтраў, могуць разьмяшчацца ў драўляных дамох; ва ўсіх іншых выпадках інтэрнаты павінны быць разьмешчаны ў каменных дамох;

2) спальныя (жылыя) пакоі павінны мець кожная асобны выхад у калідор, весьцібюль альбо ўсходавую клетку. Плошча жылога пакою павінна складаць на 1 чалавека 9,0 кв. мэтраў, на 2 чалавекі—18 кв. мэтраў, на 3 чал.—каля 24 кв. мэтраў, на 4 чал.—каля 30 кв. мэтраў.

3) у інтэрнатах асобныя пакоі павінны быць падзелены паміж сабою глухімі малагукаправодзячымі сьценамі;

4) апроч спальных пакояў, інтэрнат павінен мець наступныя памяшканьні агульнага карыстаньня і гаспадарчага характару:

а) разьдзявальныя памяшканьні альбо індывідуальныя венціліруемыя шафы для хаваньня верхняе вопраткі, пры гэтым у інтэрнаце павінна быць прадугледжана магчымасьць прасушваньня верхняе вопраткі; калі робіцца разьдзявальня, то плошча памяшканьняў для іх вызначаецца з разьліку 0,5 кв. мэтра на кожнага жыхара, але ва ўсякім выпадку памяшканьне разьдзявальні павінна мець ня менш 10 кв. мэтраў;

б) умывальныя памяшканьні, з лікам кранаў па аднаму на кожныя 5 чалавек, з плошчаю каля 1 кв. мэтру на кожны кран;

в) прыбіральні ў кожным паверсе з разьліку аднага „очка" на 10 чалавек;

г) пакоі дзённага знаходжаньня з разьліку 0,6 кв. мэтра на кожнага жыхара, але ва ўсякім выпадку ня менш аднаго пакою, плошчаю 20 кв. мэтраў;

д) калідоры, шырынёю ня менш 1/15 даўжыні, але ва ўсякім выпадку ня менш 1,75 мэтра, пры гэтым усе выхады з калідораў, праходаў і ганкаў павінны мець дзьверы, якія адчыняюцца знадворку ў напрамку да бліжэйшага выхаду;

е) кухні, сталовыя і гаспадарчыя памяшканьні пры іх, як: кладовыя для начыньня, бялізны і прадуктаў, моячныя і кубавыя памяшканьні, разьлічаныя на адпаведны лік жыхароў, з падлікам магчымага, па характару інтэрнату, чарговага карыстаньня сталоваю.

Калі робіцца агульная кухня і сталовая, абслугоўваючыя некалькі інтэрнатаў, то ў дамох інтэрнатаў прадугледжваецца толькі абсталяваньне для гатаваньня вады і разаграваньня ежы.

39. Вышыня жылых памяшканьняў павінна быць ня менш 2,8 мэтра і ня больш 3-х мэтраў, лічачы ад падлогі да ніжняй паверхні столі.

Вышыня паўсутарэньнявых і сутарэньнявых памяшканьняў павінна быць у залежнасьці ад назначэньня—ад 2,25 да 2,80 мэтра.

Калі робяцца неатынкаваныя міжпаверхавыя перакрыцьці з адкрытымі выступаючымі ў памяшканьне балькамі, вышыня памяшканьня вымяраецца да павярхні столі, разьмешчанай паміж балькамі, пры ўмове, каб чыстая вышыня ад падлогі да ніжняй павярхні балькі была ня менш 2,5 мэтра.

40. Глыбіня жылых памяшканьняў, лічачы яе нармальна да знадворнай сьцяны, у якой разьмешчаны вокны, не павінна перавышаць: а) падвойнай вышыні і б) падвойнай шырыні памяшканьня, якая павінна быць ня менш 2,5 мэтраў.

41. Адносіна сьветавой плошчы да плошчы падлогі ў жылых памяшканьнях у залежнасьці ад арыентыроўкі па краінах сьвету павінна быць ад $^1/_8$—$^1/_6$.

42. Кожнае жылое памяшканьне, кухня, прыбіральня, кладовыя для прыпасаў, а таксама пакоі дзённага знаходжаньня, сталовыя, гардэробныя, умывальныя і гаспадарчыя памяшканьні ў інтэрнатах павінны мець вокны на 2 палавіны ў знадворнай сьцене, прычым сьветавая паверхня ў жылых памяшканьнях, у сталовых, у пакоях дзённага знаходжаньня і ў кухні павінна быць ня менш $^1/_8$ плошчы падлогі, асьвятляемага гэтымі вокнамі памяшканьня. У сенях, пярэдняй, калідоры кватэры і інш. дапушчаецца рабіць сьветавыя шкляныя адтуліны ва ўнутраных сьценах альбо перагародках, аддзяляючых іх ад сумежнага, асьветленага непасрэдна дзённым сьветам, памяшканьня.

*Увага.* Для індывідуальных кватэр дапушчаецца асьвятленьне прыбіральняў не простым сьвятлом, калі гэта дасьць яўныя эканамічныя перавагі. Асьвятленьне ванных памяшканьняў дапушчаецца ва ўсіх выпадках штучным сьвятлом.

43. Калідоры ў будынках інтэрнату павінны быць асьветлены вокнамі, разьмешчанымі ва ўздоўжных альбо торцавых знадворных сьценах, альбо верхнім сьвятлом так, каб адносіна сьветавой павярхні да плошчы была ня менш $^1/_{20}$, пры гэтым павінна быць прадугледжана магчымасьць праветрываньня калідора.

Пры асьвятленьні калідору вакном, разьмешчаным ў торцавай сьцяне, ці сьветавым ліхтаром, адлегласьць пункту, найбольш адлеглага ад вакна ці ад гарызантальнай праэкцыі сьветавога ліхтару, не павінна перавышаць 10 мэтраў.

Пры асьвятленьні калідора вокнамі, разьмешчанымі ў прадольнай сьцяне, любы пункт па ўнутранай паверхні знадворнай сьцяны калідору павінен знаходзіцца ад краю бліжэйшага вакна, разьмешчанага ў гэтай сьцяне, ня больш, чымся на 7,5 мэтра.

Асобныя вучасткі калідору, даўжынёю ня больш 7,5 мэтра, могуць быць асьвятлены ў тарцы сьветавымі дзьвярыма, якія вядуць у памяшканьне агульнага карыстаньня.

*Увага.* У асобных выпадках можа быць з дазволу Кіраўніцтва Будаўнічага Кантролю павялічана норма адлегласьці найбольш дальняга пункту калідору ад вакна, але ня больш 15 мэтраў.

44. Рабіць драўляныя мансардныя паверхі, мэзаніны і жылыя памяшканьні ў падстрэшных паверхах дапушчаецца пры захаваньні наступных умоў:

а) жылыя і няжылыя памяшканьні ў мансардных і падстрэшных паверхах павінны мець выхад на ўсходы, здавальняючыя правілам, паказаным у арт. 14;

б) вышыня жылых памяшканьняў у мансардных і падстрэшных паверхах ад падлогі да пачатку скошанай часткі столі павінна быць ня менш 1,5 мэтра, а вышыня памяшканьняў да паземнай часткі столі павінна быць 2,8 мэтр., пры гэтым паземная частка столі павінна складаць ня менш 50% плошчы падлогі;

в) жылыя памяшканьні ў падстрэшным паверху павінны аддзяляцца ад няжылой плошчы падстрэшша каменнымі альбо драўлянымі, абароненымі з абодвых бакоў ад загараньня, сьценамі;

г) над жылым мансардным паверхам, мэзанінам і г. д. рабіць другое жылое памяшканьне не дапушчаецца;

д) яны павінны задавальняць агульным патрабаваньням у адносінах жылых памяшканьняў.

45. Разьмеры паасобных памяшканьняў устанаўляюцца ў адпаведнасьці з тыпам і агульнаю плошчаю кватэры і з захаваньнем санітарных норм.

У паняцьце „жылая плошча“ ўваходзіць сума плошчаў жылых пакояў, за выключэньнем плошчы печаў і карэнных труб.

У паняцьце „дапаможная плошча“ ўваходзіць плошча кухні, пярэдняй, калідораў, убіральні, ваннай і кладовых за выключэньнем плошчы печаў і карэнных труб.

У паняцьце „карысная плошча“ ўваходзіць сума жылой і дапаможнай плошчаў. У „карысную плошчу“ ня ўключаюцца ўнутраныя сьцены і перагародкі, а таксама ўсходы, пераходы з вуліцы да ўсходаў у першым паверсе шматпаверхавых дамоў і халодныя сенцы ў дамох аднапаверхавых.

46. Вышыня міжпаверхавых перакрыцьцяў у жылым доме не павінна быць больш 0,35 мэтра.

Для вопытна-паказальнага праектаваньня і будаўніцтва дазваляюцца адступленьні ад устаноўленых норм вышыні памяшканьняў з тым, аднак, каб гэта ня выклікала паніжэньня эканамічных і санітарных запатрабаваньняў.

47. Для забясьпечаньня, з мэтаю эканамічнасьці праекту і рацыянальнасьці пляніроўкі, наяўнасьці на адзінку аб'ёму ўсяго будынку вызначанай плошчы кватэры, пры праектаваньні павінны захоўвацца, як максымальныя, наступныя суадносіны аб'ёму будынку да карыснай плошчы.

Аб'ёмныя каэфіцыэнты (адносіны кубатуры да карыснай плошчы):

| Карысная плошча кватэры | Да 40 кв. мт. | Да 50 кв. мт. | Да 60 кв. мт. | Да 70 кв. мт. | Ад 70 кв. мт. і вышэй |
|---|---|---|---|---|---|
| Аб'ёмныя каэфіцыэнты: | | | | | |
| а) для многапаверх. блёчн. дому каменнага . . . . . | 4,85 | 4,80 | 4,75 | 4,70 | 4,65 |
| б) для двухпаверх. блёчн. драўлянага дому . . . . | 4,56 | 4,50 | 4,45 | 4,40 | 4,35 |
| в) для аднапаверх. драўлянага блёку | 4,15 | 4,10 | 4,05 | 4,00 | — |

Паказаныя ў гэтым артыкуле аб'ёмныя каэфіцыэнты вызначаны пры таўшчыні знадворных цагляных сьцен у 0,64 мэтра; у выпадку ўжываньня новых і палегчаных канструкцый з больш тонкімі знадворнымі сьценамі, аб'ёмныя каэфіцыэнты адпаведна паніжаюцца.

48. Для каменнага блёчнага дому з лікам кватэр у паверсе менш васьмі, аб'ёмныя каэфіцыэнты павялічваюцца супроць паказаных у арт. 47 ва ўсіх адпаведных графах табліцы:

пры наяўнасьці шасьці кватэр у паверсе—на 1%.
" " чатырох " " " " 2%.
" " двух " " " " 4%.

У драўляным блёку з дзьвюма кватэрамі ў паверсе аб'ёмныя каэфіцыэнты павялічваюцца супроць паказаных у арт. 47 ва ўсіх адпаведных графах табліцы—на 1%.

Пры наяўнасьці ў доме больш дзьвюх кватэр на адны ўсходы, паказаныя ў арт. 47 аб'ёмныя каэфіцыэнты паніжаюцца:

пры трох кватэрах на адны ўсходы—на 2%.
" чатырох " " " " " 2½%.

Для аднапаверхавых каменных дамоў палегчаных канструкцый пры таўшчыні знадворных сьцен да 0,40 мэтраў павінны ўжывацца нормы, устаноўленыя для аднапаверхавых драўляных блёкаў з падвышэньнем іх да 5%.

49. Побач з устанаўленьнем дапушчальнага максымуму дапаможнай плошчы адносна да жылой, у кватэры павінен быць забясьпечан таксама і абавязковы мінімум дапаможнай плошчы. Для гэтага пры праектаваньні павінны захоўвацца наступныя (устанаўляемыя ў двух межах) суадносіны жылой плошчы да карыснай:

Адносіны жылой плошчы да карыснай:

| Карысная плошча кватэры | Да 40 кв. мт. | Да 50 кв. мт. | Да 60 кв. мт. | Да 70 кв. мт. | Ад 70 кв. мт. і вышэй |
|---|---|---|---|---|---|
| а) для многапаверхн. блёчнага дому . . . . . . | 0,70—0,80 | 0,65—0,70 | 0,70—0,75 | 0,70—0,75 | 0,75—0,80 |
| б) для драўлянага аднапаверхн. дому . . . . . . | 0,65—0,70 | 0,65—0,70 | 0,70—0,75 | 0,70—0,75 | — |

У выпадку адсутнасьці ў кватэры ваннага пакою, нормы, пачынаючы з 3 графы, падвышаюцца на 4%.

50. Устанаўляемыя гэтымі правіламі аб'ёмы каэфіцыэнту (арт. арт. 47 і 48) і адносіны жылой плошчы да карыснай (арт. 49) вызначаюць эканамічнасьць і плянавую мэтазгоднасьць кватэры і жылога дому. Адпаведнасьць праектаў устанаўляемым нормам можа паварацца ці ў стасунку да кожнай тыпавай кватэры ці сэкцыі, ці па паверхах і для дому цалкам, калі кватэры па ліку і разьмеру пакояў аднатыпныя. Пры гэтым у карысную плошчу і ў плошчу забудоўкі павінны ўключацца ўсе маючыяся ў паверхах выступы (эркера, часткі паверхаў, якія навісьлі, і інш.), а пры вылічэньні аб'ёму—плошча забудоўкі,

г. зн. уся плошча па знадворнаму пэрымэтру з сьценкамі, усходамі і інш. памнажаецца на праэктную вышыню кожнага паверху з уклю-чэньнем паміжпаверхавага перакрыцьця (ад чыстае падлогі ніжняга паверху да чыстае падлогі наступнага паверху) альбо на агуль-ную вышыню ўсіх паверхаў (ад падлогі ніжняга паверху да падлогі вышкі).

51. Аб'ём пабудовы для складаньня арыентыровачных каштарысаў і для ацэнкі будынкаў, а таксама для крэдытаваньня альбо фінанса-ваньня будаўніцтва вызначаецца, незалежна ад устаноўленых гэ-тымі правіламі каэфіцыэнтаў, памнажэньнем плошчы забудоўкі па знадворнаму пэрымэтру будынку (па паверхах у выпадку наяўнасьці выступаў і навісаньня паверхаў) на вышыню адпаведнага паверху альбо на вышыню ўсяго будынку, лічачы ад сярэдняй адзнакі паверхні зямлі, прылягаючай да пэрымэтру будынкаў, да падлогі вышкі альбо мансарднага памяшканьня.

Пры пабудове мансардных паверхаў аб'ём мансарды вылічаецца памнажэньнем плошчы па знадворнаму пэрымэтру знадворных сьцен мансарднага паверху на сярэднюю вышыню яе ад падлогі да верхняй раўніны перакрыцьця.

Арыентыровачная ацэнка (з кубамэтру) для мансардных паверхаў робіцца паасобна ад асноўнай часткі будынку па спэцыяльна ўстанаў-ляемаму для розных раёнаў, у залежнасьці ад канструкцый і мясцовых умоў, узбуйненым вымернікам.

52. Мясцовыя кіраўніцтвы будаўнічага кантролю могуць у паасоб-ных выпадках, у залежнасьці ад ступені камунальнага дабрабыту дадзенага месца альбо раёну, а таксама ў сувязі з кліматычнымі, быта-вымі і іншымі мясцовымі ўмовамі, зьмяніць устаноўленыя гэтай паста-новаю нормы ў той ці іншы бок, але ня больш, чымся на 5%. Адхі-леньні больш, чымся на 5% могуць рабіцца ў выключных выпадках, толькі па згодзе з Камітэтам па будаўніцтву пры ЭКАНА БССР.

У зьвязку з цеснатою і канфігурацыяй паасобных будаўнічых вучасткаў, кіраўніцтвы будаўнічага кантролю могуць даваць дазвол на павялічэньне ўстаноўленых у арт. арт. 47 і 48 гэтых правіл аб'ём-ных каэфіцыэнтаў ня больш, чымся на 3%.

## РАЗЬДЗЕЛ IV.

### Агульныя правілы па зьніжэньню кошту жылішчнага будаўніцтва.

53. Праектаваньне паверху сутарэньня для памяшканьняў гаспадар-чага прызначэньня (рэчавых клецяў з дрывянікамі) дапушчаецца пры ўмове, што пабудова сутарэньня ня будзе вымагаць ужываньня ізаля-цыйных работ ад грунтавых вод і агульная плошча сутарэньня з уклю-чэньнем памяшканьняў цэнтральнай кацельнай з складамі апалу пры ёй не павінна перавышаць 50% ад плошчы першага паверху.

54. Ва ўсіх магчымых выпадках рабіць праэктаваньне ўлічваючы максымальнае скарыстаньне недэфіцытных і мясцовых матарыялаў.

Службовыя будынкі праектаваць выключна з танных мясцовых і менш дэфіцытных матарыялаў.

55. Ваконныя і дзьверныя пераплёты, падваконьнікі, балькі, ступені і інш. павінны адпавядаць па формах і разьмерах стандартным. У выпадку адсутнасьці агульнаўстаноўленых стандартаў якіх-небудзь частак пабудоў трэба карыстацца па магчымасьці аднастайнымі, най-больш пашыранымі разьмерамі элемэнтаў будынкаў.

56. Пры аздобачных работах:

а) забараняецца атынкоўваць знадворныя сьцены ўсіх агнятрывалых будынкаў ва ўсіх выпадках, калі гэта не патрабуецца тэхнічнымі ўмовамі (вільгаць, ёмкасьць, выветрываньне, цеплаправоднасьць і інш.);

б) забараняецца выцягваць стольныя карнізы, замяняючы іх простай выкружкай;

в) знадворнае архітэктурнае аздабленьне рабіць у самых простых формах без затраты на гэта асобных сродкаў. У паасобных выпадках, у буйных гарадзкіх цэнтрах па ўмовах агульнага архітэктурнага афармленьня, дапушчаецца з дазволу кір. буд. кантроля атынкаваньне сьцен толькі з надворнага боку;

г) ня ўжываць дарагіх абліцовачных матарыялаў, мэталічных пераплётаў, каштоўных па аздабленьню прыладаў санітарнага абсталяваньня не стандартнага тыпу.

57. Пры параўнальнай ацэнцы праэктаў надаць асаблівую ўвагу эканамічнасьці праекту і найбольшай адпаведнасьці пастаўленым будаўніцтву мэтам.

Старшыня Прэзыдыуму Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *Гейнэ.*

Члены Прэзыдыуму Камітэту па Бадаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *Краузэ.* *Кавалёў.*

2 красавіка 1929 г.
г. Менск.

## ПАПРАЎКА.

У Бюлетэні СНК № 4 за 1929 год у інструкцыі НК Унутраных Спраў за 30/III г. г. № 36 „Пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/II-29 г. пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ трэба зрабіць наступныя папраўкі:

Стар. 23. Да арт. 1-га трэба дадаць: „Увага: запазычанасьць па кватэрнай плаце да 1-га красавіка 1929 г. спаганяецца па старых стаўках“.

Стар. 24. У арт. 4 другі абзац перад словамі „паняцьце сумяшчальнасьці“ трэба ўставіць прапушчаныя словы: „У тых выпадках, калі работнік заняты па сваёй асноўнай пасадзе цэлы рабочы дзень, аплата за работу па сумяшчальнасьці, выконваемую зьверх рабочага дня, хаця-б у другой установе, прыроўніваецца да аплаты за звышчасовую работу і ня прымаецца ў разьлік пры ўстанаўленьні кватэрнай платы“.

Стар. 24. У арт. 5 другі абзац павінен быць запісан так: „Загадчыкі пэдагагічных устаноў плацяць кватэрную плату з заработку за нармальны пэдагагічны працоўны дзень, які пастановаю СНК БССР за 9/VII-25 г. прадугледжан для данай установы“.

Стар. 24. Арт. 9 павінен быць запісан так: „Да катэгорыі асоб вольных прафэсій павінны быць аднесены дактары (мэдыцынскія, вэтэрынарныя, зубныя і г. д.), фэльчары, акушэркі, масажысткі, члены калегіі абаронцаў, інжэнэры, працаўнікі літаратурнай працы, для якіх літаратурны заработак зьяўляецца асноўнай крыніцай сродкаў існаваньня, а таксама мастакі, скульптары і наогул асобы, якія набываюць сродкі для існаваньня не як сталыя наёмныя работнікі, а сыстэматычна робяць паслугі ў якасьці паасобнай працы“.

Стар. 25. У арт. 11 замест слова „формамі“ трэба чытаць „тарыфамі“.

Адказны рэдактар **І. Фрыдман.**